Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4663) 27 красавіка 2012 г.

## Думка пісьменніка

# Агульны клопат



**Георгій МАРЧУК**

— Мы ведаем, што нельга жыць мінулым і будучым. Усялякія параўнанні адносныя, у іх няма карысці. Можна толькі канстатаваць. Так, у духоўным выхаванні асобы раней першыя пазіцыі займала кніга. Але ж тое было ў іншую эпоху і ў іншым палітычным ладзе. А сёння падчас пабудовы ці адраджэння капіталізму і сама кніга ўключаецца ў канкрэтную барацьбу за права існавання з інтэрнэтам, тэлебачаннем, з некаторымі СМІ, якія насаджаюць гледачам паталогію і пошласць, сарказм і цынізм. Кожны наш пісьменнік мае права разлічваць на свайго чытача, і ён, пісьменнік, няхай не масавага, але ж свайго чытача знаходзіць. Напачатку гэта сям'я, сябры, аднакласнікі, землякі, настаўнікі і, нарэшце, незнаёмыя наведвальнікі бібліятэк. Кніжцы трэба дапамагаць прабівацца да чытача. Вось чаму сёння прапаганда кнігі — гэта агульны клопат чыноўніка (ад кіраўніка гаспадаркі да міністра), пісьменніка, бібліятэкара, прадаўшчыцы кнігарні, настаўніка, рэдактараў усіх газет рэспублікі, кіраўнікоў тэлеканалаў. Калі дзяржава адвернецца ад гэтай справы, прыйдзе і пагібель беларускай кнізе.

Роля сённяшніх СМІ ад раёнкі (асабліва) да рэспубліканскіх радыё і тэлебачання як ніколі вялікая. Мажліва, не абавязкова ладзіць начныя чытанні ў бібліятэках, як гэта робяць сёння ў Расіі, але ж ажывіць работу, шукаць новыя формы, каб чытачу была цікава бібліятэка, патрэбна.

Грамадства, на жаль, перастала ганарыцца сваімі пісьменнікамі, як, дарэчы, і сваімі мастакамі, кампазітарамі, акцёрамі. Дзякуючы школам яшчэ цепліцца цікавасць да нашага брата, да беларускай і рускай літаратуры. Любоў да радзімы, на мой погляд, гэта і гонар за сваіх пісьменнікаў, настаўнікаў, будаўнікоў, дактароў. Кніга па-ранейшаму самы блізкі і інтымны настаўнік на ўсё жыццё, бо ў ёй заўсёды і пачуцці, і думкі, і каханне, і прыклады мужнасці, і выкрыццё носьбітаў зла. Спадзяюся, што Год кнігі яшчэ больш умацуе любоў чытачоў да нашай літаратуры. Чытайце беларускае!

## У нумары:



# Устойлівая тэндэнцыя развіцця

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава**

**XVI Міжнародная спецыялізаваная выстаўка "СМІ ў Беларусі" і XIX Міжнародная спецыялізаваная выстаўка і кангрэс па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях "ТИБО-2012" пачалі работу 25 красавіка ў Футбольным манежы ў Мінску. Да 28 красавіка жыхары і госці сталіцы могуць пазнаёміцца не толькі з беларускімі рэспубліканскімі, рэгіянальнымі і раённымі выданнямі, але і з выданнямі Расіі, Украіны, а таксама Індыі, Кітая, Турцыі і іншых краін. Не застануцца па-за ўвагай і апошнія дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу ў галіне тэлекамунікацыі, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогій.**



*Чырвоную стужку на ўрачыстым адкрыцці пераразаюць міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі, першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, міністр сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь Мікалай Панцялей.*

Гасцей і ўдзельнікаў значнага міжнароднага форуму віталі на ўрачыстым адкрыцці першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь, сустаршыня арганізацыйнага камітэта выстаўкі Алег Праляскоўскі, міністр сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь, сустаршыня арганізацыйнага камітэта Мікалай Панцялей, генеральны дырэктар Выканаўчага камітэта рэгіянальнай Садружнасці ў галіне сувязі Нурудзін Мухітдзінаў, старшыня Камітэта сувязі і інфарматызацыі Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Казахстан Рызат Нуршабекаў, дырэктар ЗАТ "Тэхніка і камунікацыі", намеснік сустаршыні арганізацыйнага камітэта Рыгор Бондараў.

Вітальны адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі зачытаў Аляксандр Радзькоў: "Сучасны свет немагчымы без інфармацыйных тэхналогій, яны ператварылі цывілізацыю, дазволілі чалавецтву перайсці да больш высокай стадыі развіцця, якую вучоныя назвалі "інфармацыйным грамадствам". Развіццё інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій — найважнейшы прыярытэт. Тут у нас ёсць пэўныя дасягненні, але зрабіць наканавана значна больш. Выкарыстоўваючы самы лепшы і самы перадавы сусветны вопыт, прымяніць яго на практыцы. У гэтым сэнсе выстаўка адыгрывае вялікую пазітыўную ролю. Жадаю ўдзельнікам жывых цікавых дыскусій, практычных вынікаў і плённай работы дзеля дабрабыту беларускага народа".

Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі адзначыў: "Сумеснае правядзенне гэтых форумаў — невыпадкова. У сучасным свеце інфармацыя мае асаблівую каштоўнасць. Прэса, тэлебачанне, радыё з'яўляюцца неад'емнай часткай жыцця кожнага чалавека, галіной рынка, якая развіваецца найбольш дынамічна. Беларускія СМІ (іх сёння зарэгістравана больш як 1400) актыўна асвойваюць найноўшыя дасягненні ў сферы камунікацый. Ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі на такім насычаным інфармацыйным рынку галоўная задача СМІ — пошук, пашырэнне і захаванне сваёй аўдыторыі. А для гэтага неабходна стварыць і данесці да яе высакаякасны інфармацыйны прадукт. СМІ прадстаўлены не толькі ў фармаце друкаваных выданняў, тэле- і радыёпраграм. Актыўна развіваецца іх прысутнасць у інтэрнэце, сацыяльных сетках, мабільным кантэнце. Сумеснае правядзенне выставак дапаможа ўдзельнікам і гасцям форумаў абмяняцца думкамі, ідэямі, вопытам форм і метадаў работы, стане далейшым стымулам паляпшэння работы СМІ, з'яўлення новых высокапрафесійных, аб'ектыўных, актуальных і глыбокіх матэрыялаў. Агульнымі намаганнямі мы павінны забяспечыць далейшае дынамічнае развіццё айчыннай інфармацыйнай прасторы. Штогадовае правядзенне такога буйнога і значнага мерапрыемства, як выстаўка "СМІ ў Беларусі" — сведчанне рэальнага, а не паказнога клопату пра свабоду слова і імкнення да супрацоўніцтва. У нашай краіне створаны і паспяхова развіваецца рынак мас-медыя. Інфармацыйная прастора Беларусі адкрыта для раўнапраўнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. Прыемна, што з году ў год пашыраецца кола ўдзельнікаў выставак. Гэта сведчыць пра зацікаўленасць нашых калег у такім супрацоўніцтве".

Мэтай арганізатараў такога маштабнага мерапрыемства — на агульнай выставачнай плошчы памерам у 1500 кв. м размясціліся больш як 40 экспанентаў з Беларусі, Расіі (Расійская Федэрацыя прадставіла сродкі масавай інфармацыі Маскоўскай, Ніжагародскай і Бранскай абласцей), Украіны (Чарнігаўская вобласць), Кітая, Кубы, Індыі — з'яўляецца пашырэнне інфармацыйнай прасторы Рэспублікі Беларусь, інтэграцыя яе ў сусветную інфармацыйную прастору, папулярызацыя беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, актывізацыя падпісной кампаніі на перыядычныя выданні, а таксама пашырэнне тэлерадыёаўдыторыі айчынных СМІ.

Удзельнікаў і гасцей выстаўкі чакае насычаная праграма: штодня будуць прэзентавацца друкаваныя выданні, тэле- і радыёканалы, інтэрнэт-сайты. Адбудуцца цікавыя сустрэчы, майстар-класы, круглыя сталы, прэс-канферэнцыі і прэс-асамблеі. Запланавана правядзенне семінараў для кіраўнікоў рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ і прэс-сакратароў "Магчымасці традыцыйных СМІ ў сацыяльных сетках", "Рэгіянальныя СМІ і інтэрнэт", "Прымяненне інструментаў сацыяльных медыя для аператараў распаўсюджвання інфармацыі", "Эфектыўная прысутнасць СМІ ў інтэрнэце як фактар фарміравання станоўчага іміджу Беларусі ўнутры краіны і за яе межамі".

* * *

25 красавіка адбылася цырымонія ўзнагароджання пераможцаў рэспубліканскага конкурсу СМІ і журналістаў на лепшае асвятленне пытанняў міжнацыянальных і міжканфесійных адносін, міжкультурнага дыялогу ў Рэспубліцы Беларусь і супрацоўніцтва з суайчыннікамі за мяжой. У прэс-цэнтры СМІ прайшоў "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў беларускай дыяспары за мяжой і нацыянальна-культурных аб'яднанняў у рэспубліцы.

28 красавіка на выстаўцы аб'яўлены Днём дзіцячых і юнацкіх выдавецтваў. Конкурсы, майстар-класы, выступленні артыстаў і сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі заяўлены ў праграме стэндаў газет "Зорька", "Переходный возраст" і "Раніца".

Афіцыйнае закрыццё выстаўкі адбудзецца ў 13 гадзін 28 красавіка.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам і гасцям II Міжнароднага фестывалю "Уладзімір Співакоў запрашае". Кіраўнік дзяржавы назваў гэты форум знакавай падзеяй культурнага жыцця Беларусі, якая будзе садзейнічаць умацаванню дружбы і супрацоўніцтва музыкантаў розных краін.

✔ Кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны старшыню праўлення таварыства "Кніга" (Азербайджан) Зарыфа Тэймур гызы Салахава за шматгадовую дзейнасць па папулярызацыі твораў беларускай літаратуры за мяжой, вялікі асабісты ўнёсак ва ўмацаванне гуманітарных сувязей паміж Беларуссю і Азербайджанам. Таксама медалём Францыска Скарыны адзначаны старшыня Думы Сургута Сяргей Бандарэнка — за вялікі асабісты ўнёсак ва ўмацаванне эканамічных і культурных сувязей паміж Беларуссю і Расіяй.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Святлану Немаляеву з юбілеем. "Ваша жыццё напоўненае няспынным духоўным гарэннем і адданым служэннем мастацтву", — адзначана ў віншаванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Філарэту і Сіноду Беларускай Праваслаўнай Царквы ў сувязі з канчынай архіепіскапа Гомельскага і Жлобінскага Арыстарха.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прыняў з дакладам старшыню Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца. Акрамя эканамічных пытанняў, на сустрэчы закраналіся і культурныя. Гутарка ішла пра новую канцэпцыю развіцця Полацка, у прыватнасці, пра стварэнне культурна-гістарычнага цэнтра і турыстычнай інфраструктуры вакол Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра і Сафійскага сабора. Губернатар прадставіў праект, агульны кошт якога ацэньваецца ў 2 трлн. беларускіх рублёў. Прэзідэнт адобрыў прапанаваную канцэпцыю і даручыў падрыхтаваць праект адпаведнага ўказа.

✔ Міністэрства культуры Беларусі праводзіць рэспубліканскі конкурс на лепшы прыклад аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей. Конкурс закліканы стымуляваць мясцовыя ўлады на больш актыўную працу ў сферы аховы нашай гісторыка-культурнай спадчыны. Вынікі будуць падведзены ў жніўні.

✔ Дырэктарам і мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску прызначаны заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Валерый Анісенка.

✔ Першы адкрыты міжнародны фестываль даследчыцкіх і творчых прац школьнікаў праходзіць 27 — 28 красавіка ў Калінкавічах. Мерапрыемства прысвечана Году кнігі, удзел у ім бяруць дзеці з Беларусі, Расіі і Украіны. Аўтары лепшых прац будуць узнагароджаны дыпломамі. Па выніках форуму плануецца выданне зборніка.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Кожная тэма — падуладная

**Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец сустрэўся з чытачамі бібліятэкі № 16, якая дзейнічае пры сталічным Доме ветэранаў і інвалідаў.**

Пазнаёміцца з любімым аўтарам, паслухаць яго аповед пра дзейнасць пісьменніцкай арганізацыі, запытацца пра яго стаўленне да найважнейшых падзей, якія адбываюцца ў дзяржаве і свеце... Людзі ў асноўным паважнага ўзросту, за плячыма якіх вопыт жыцця, памяць пра розныя ў палітычным і эканамічным аспекце часы, адразу скіравалі гутарку на самыя хвалюючыя тэмы. Пісьменнік для іх заставаўся, як гэта калісьці і лічылася, голасам і сумленнем народа. Мікалай Іванавіч не расчараваў сваіх прыхільнікаў, уразіўшы некаторых з іх шырокай эрудыцыяй, веданнем палітыкі дзяржавы, уменнем даць адказ, здавалася б, на такія пытанні, якія знаходзяцца не зусім у кампетэнцыі літаратара.

Сусветны эканамічны крызіс і шляхі выйсця з яго, якія, здаецца, ужо знойдзены ў Беларусі; прычыны існавання ў нашай краіне двух пісьменніцкіх саюзаў; намаганні членаў СПБ вярнуць у паўсядзённае жыццё суайчыннікаў такія важныя паняткі, як патрыятызм, чалавечая годнасць і міласэрнасць; адстойванне маральных прынцыпаў — усё гэта было закранута ў выступленні старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Чытачы і супрацоўнікі бібліятэкі доўга не хацелі адпускаць госця, які, дарэчы, перадаў ім падарунак ад пісьменніцкай арганізацыі — кнігі сучасных беларускіх аўтараў.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Юбілейныя вандроўкі

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі сумесна з газетамі "Звязда" і "Мінская праўда" распачалі літаратурную вандроўку "Шляхамі паэтаў".**

Акцыя пісьменнікаў і журналістаў прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы, 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка. Першы маршрут літаратурнай вандроўкі пралёг па Мядзельшчыне. У раённай бібліятэцы імя М. Танка прайшоў "круглы стол" "Зямля, што нараджае паэтаў", дзе ішла размова пра ўнёсак Мядзельшчыны ўвогуле ў літаратурную спадчыну Беларусі. Варта зазначыць, што і сёння знаходзяцца руплівыя даследчыкі мастацкай, літаратурнай памяці Нарачанскага краю. Як прыклад — шматлікія даследаванні члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Паўла Жукава, змешчаныя на старонках мядзельскай "раёнкі".

Госці з Мінска — а гэта галоўны рэдактар "Мінскай праўды" Мікалай Літвінаў, паэт Рагнед Малахоўскі, іншыя ўдзельнікі "літаратурнай вандроўкі" — сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі Сваткаўскай сярэдняй школы імя Максіма Танка.

Наступныя адрасы акцыі "Шляхамі паэтаў" — Яхімоўшчына, Маладзечаншчына, Харужанцы, іншыя куточкі ў Маладзечанскім і Лагойскім раёнах, звязаныя з жыццём і творчасцю народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. А следам — вандроўкі па коласаўскіх мясцінах Міншчыны.

Кастусь ЛАДУЦЬКА

*Форум*

# Народ цікавы сваёй адметнасцю

Раіса МАРЧУК,
фота аўтара

**Як беларусы ўмеюць ткаць ручнікі, чараваць над ганчарным кругам, выконваць старадаўнія песні і танцы, гатаваць адмысловыя стравы, можна было ўбачыць падчас міжнароднага форуму "Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства".**



*Майстар-клас праводзіць кіраўнік аматарскага аб'яднання па ткацтве Асіповіцкага раённага Дома рамёстваў Аляксандра Рыбак.*

Арганізатарамі гэтага грандыёзнага мерапрыемства, якое праходзіла ў Магілёве на працягу чатырох дзён пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Інстытута культуры Беларусі, выступілі ўпраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама і Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы.

Тэма форуму надзвычай важная і актуальная не толькі для Беларусі, але і любой цывілізаванай дзяржавы, бо захаванне традыцыйнага — аснова для культурнай разнастайнасці. Пры гэтым выключна важным з'яўляецца знаёмства з лепшымі практыкамі папулярызацыі традыцыйнай культуры, творчае абмеркаванне інавацый на ўзроўні міжнароднай супольнасці, якое дазваляе ідэнтыфікаваць ключавыя запыты рэгіёнаў і спрактаваць жыццяздольныя падыходы да іх устойлівага развіцця. Падчас форуму, у якім узялі ўдзел навукоўцы і спецыялісты па вывучэнні фальклору і традыцыйнай культуры з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Азербайджана і Арменіі, было абмеркавана шырокае кола праблем.

— Калі гадоў пятнаццаць таму магіляўчан папракалі тым, што ў вобласці не вельмі актыўна займаюцца адраджэннем традыцыйнай культуры, то цяпер можна ўпэўнена сказаць: менавіта Магілёўшчына за апошнія дзесяць гадоў зрабіла вельмі важкія крокі па адраджэнні, захаванні і папулярызацыі спадчыны, — зазначыў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі. — І, думаю, кожны раз, бываючы тут, мы будзем заўважаць гэты паступовы рух наперад.

Для ўдзельнікаў сустрэчы майстры Прыдняпроўскага краю падрыхтавалі выстаўку работ дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, правялі майстар-класы, прэзентавалі калекцыю ручнікоў і рэканструяваныя традыцыйныя жаночыя касцюмы. Таксама прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Традыцыйная культура: ахова, захаванне, актуалізацыя". Удзельнікі форуму пазнаёміліся з аб'ектамі нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Магілёўшчыны і завіталі ў старажытны горад Мсціслаў на народнае тэатралізаванае гулянне з выкарыстаннем элементаў рэгіянальных абрадаў.

— Гэтае свята — сапраўдная падзея не толькі для вобласці, але і для Беларусі, — падкрэсліў начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец. — Таму што толькі захоўваючы звычаі народа мы можам адчуваць сапраўдную любоў да родных мясцін і жаданне прымножыць багацце сваёй краіны.

*За падзеяй*

# Творца і газета

Міхась КАВАЛЁЎ

**У Рагачоўскім раёне прайшоў абласны форум "Роля рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі ў прапагандзе беларускай літаратуры", арганізаваны галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы Гомельскага аблвыканкама, Рагачоўскім райвыканкамам і Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

На пленарным пасяджэнні, якое вяла начальнік аддзела сродкаў масавай інфармацыі галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама Ірына Шапецька, выступілі намеснік старшыні райвыканкама Васіль Каральчук, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч, намеснік дырэктара абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна Юрый Максіменка, галоўныя рэдактары газет Андрэй Шышкін ("Свабоднае слова", Рагачоў), Іван Гарыст ("Калінкавіцкія навіны"), Валянціна Шлапакова ("Чырвоны кастрычнік", г. п. Акцябрскі), пісьменнік Віктар Лоўгач.

Асноўная ўвага была нададзена супрацоўніцтву пісьменнікаў са сродкамі масавай інфармацыі, дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі па прапагандзе беларускай літаратуры і яе папулярызацыі.

Старшыня абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч уручыў членскія білеты і значкі публіцысту і празаіку з Мазыра Наталлі Канопліч і аўтару тэкста гімна Рагачова паэту і празаіку Віктару Купрыянчуку, якія прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Кіраўнік абласной творчай арганізацыі таксама уручыў дыпломы праўлення СПБ некаторым пісьменнікам, у тым ліку і рагачоўцу Міхасю Сліве — за актыўную творчую работу і папулярызацыю літаратуры. А калектыў рэдакцыі газеты "Свабоднае слова" атрымаў падзяку абласнога аддзялення СПБ за актыўную прапаганду мастацкай літаратуры і чытання.

*Літабсягі*

# Скласці літары ў радкі

**Імя Глеба Артханава (сапр. Юрый Аляксееў), паэта, перакладчыка, добра вядомае ў вузкіх колах пісьменнікаў ды аматараў паэзіі. На рахунку аўтара — каля двух дзясяткаў паэтычных зборнікаў, што пабачылі свет цягам 30 год. Таму творчая сустрэча з Глебам Артханавым, а яна прайшла ў сталічнай бібліятэцы № 5, сталася не проста прэзентацыяй яго новай кнігі "Зеркальный ковчег", але і нагодай для спаткання старых сяброў, калег.**



*Паэт і перакладчык Глеб Артханаў.*

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Кастуся Дробава**

Анатоль Аўруцін, галоўны рэдактар часопіса "Новая Немига литературная", які выступіў у ролі вядучага імпрэзы, падкрэсліў: "Нягледзячы на тое, што паэт доўгі час працуе ў Санкт-Пецярбургу, Глеб Артханаў — наш аўтар. І ён мае шмат што сказаць чытачу, прадставіць на яго суд здабыткі трыццацігадовай працы".

Сам жа Артханаў сціпла прызнаўся: "Пасля чытання вершаў Аляксандра Блока, Барыса Пастарнака, Марыны Цвятаевай я доўга не наважваўся знаёміць публіку са сваімі творамі, ды і ў Мінску не было асабліва вартай магчымасці выдавацца. Атрымалася выдаць кнігу ў Піцеры, там нас добра прымаюць, там шмат сяброў, многія мае вершы з новага зборніка прысвечаныя піцерскім калегам па пяры".

Сярод прысутных на вечарыне было шмат паэтаў, і яны не проста прамаўлялі, віншавалі аўтара, але і чыталі свае вершы. Так, у ліку выступоўцаў былі Мікола Шабовіч, Ала Чорная, Анатоль Андрэеў, Таццяна Лейка, Лізавета Палеес, Ала Левіна, Ганна Васільева, Вольга Пераверзева, Святлана Кражава. У сваім выступленні Валянціна Паліканіна, паэтэса, лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прыгадала словы англійскага пісьменніка Джона Кітса. Ён пісаў, што паэзію трэба разумець пачуццямі. Гэта як уваходжанне ў возера, калі не абавязкова адразу ж плыць да іншага берага, але важна атрымліваць асалоду ад адчування вады. Паводле яе меркавання, адчуванні ад паэзіі Глеба Артханава падобныя да тых, пра якія пісаў паэт-рамантык Кітс.

У кнігу Глеба Артханава "Зеркальный ковчег" апроч вершаў, напісаных цягам двух год, увайшоў і пераклад з санскрыта "Бхагавад-гіты" — адной з найбольш шаноўных кніг індыйскага народа. Пераклад упершыню выкананы ў аб'ёме і памеры арыгінальнага тэксту. Менавіта на гэтую частку кнігі звярнуў увагу паэт і перакладчык Юрый Сапажкоў: "Я ўражаны тым, што атрымалася. І мяне переканала прызнанне аўтара, зробленае ў пасляслоўі. Ён па восем гадзін піў каву і паліў, і быў шчаслівы, бо ў гэты час думаў, думаў, запісваў і патрохі перакладаў кожны дзень. Думаю, што гэты пераклад заслугоўвае выдання ў выглядзе асобнай кнігі".

Сябры і калегі паэта мелі яшчэ адну нагоду для таго, каб павіншаваць Глеба Артханава. Гэта атрыманне ім прэміі імя Веніяміна Блажэннага. Узнагарода была ўручана ўпершыню.

*Артлінія*

# Яго Вялікасць Мора

**Спрадвек пра яго складаюць легенды і песні, яму прысвячаюць паэтычныя строфы, сімфанічныя кампазіцыі, жывапісныя палотны. Мора! Нават увасобленыя ў карцінах маляўнічыя вобразы загадкавай і непрадказальна зменлівай стыхіі ўражваюць, нібы яе жывы подых. Экспрэсія неўтаймоўнага шторму; дрыготкі след месяца на лагоднай начной хвалі; імклівыя аблокі, падобныя да белых ветразяў, і навальнічныя хмары над свінцовай вадой; рамантычнае паўднёвае ўзбярэжжа і суровы краявід мора паўночнага... Непаўторны абагульнены партрэт Яго Вялікасці Мора стварылі арганізатары выстаўкі, якая адкрываецца сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**



*Узор марыністыкі Івана Айвазоўскага.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Галоўная скарбніца выяўленчага мастацтва краіны працягвае знаёміць публіку са сваімі ўнікальнымі фондамі. І гэтым разам нашай увазе прапануецца тэматычная экспазіцыя, складзеная з работ мастакоў, чыю творчасць натхнялі марскія краявіды. Пад назвай "Іван Айвазоўскі ды марскі пейзаж XIX — XX стст." прадстаўлена 60 жывапісных і графічных работ.

Палотны самага знакамітага рускага марыніста апынуліся ў адметнай кампаніі такіх размаітых творцаў, як А. Багалюбаў, Л. Лагорыа, А. Куінджы, В. Сурыкаў, К.Каровін, А. Лентулаў, В. Бялыніцкі-Біруля, Р. Ніскі, М. Купрыянаў (прадстаўнік славутых Кукрыніксаў), Н. Касумаў, Х. Сілінш... Так што ёсць магчымасць параўнаць суб'ектыўна-рамантычны, эфектны "морапіс" І. Айвазоўскага, стрыманую ў выяўленні эмоцый і набліжаную да рэчаіснасці манеру мастакоў-рэалістаў памежжа XIX і XX стст. ды спантанныя імпрэсіі жывапісцаў больш позняга, ужо, можна сказаць, нашага часу.

Між тым, творчасць Івана Айвазоўскага, з дня нараджэння якога сёлета адзначаецца 195 гадоў, не страчвае сваёй актуальнасці. Два гады таму ў праекце НММ Беларусі "Выстаўка адной карціны" было прадстаўлена знакамітае палатно "Ноч на востраве Радос" (1850), напісанае амаль праз пяць гадоў пасля марскога падарожжа мастака да берагоў Малой Азіі ды астравоў Грэчаскага архіпелага. Мінулым летам жывапіс выбітнага марыніста ўпрыгожыў тэматычную выстаўку "Італія, айчына натхнення..." з фондаў музея, у межах якой ладзіўся цыкл вечароў камернай музыкі італьянскіх кампазітараў. Пра сусветную папулярнасць і запатрабаванасць творчасці І. Айвазоўскага сведчыць нядаўні сенсацыйны факт: 24 красавіка падчас лонданскага аўкцыёна "Sotheby's" быў адзначаны чарговы рэкорд кошту для карцін гэтага мастака. Яго "Краявід Канстанцінопаля і Басфорскага заліву" невядомы пакупнік набыў за 3 233 250 фунтаў сцерлінгаў (больш як 5 млн. долараў). Вось такая магія "маляванага мора": ласкавага, раз'ятранага, усемагутнага і прыгожага — здатнага ці не ў кожнай душы абудзіць мастака.

*Повязі*

# Бурацiна iдзе на пасадку!



**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

**З 15 па 20 мая ў Мінску пройдзе VII Беларускі міжнародны фестываль тэатраў лялек. Гледачы пабачаць 13 спектакляў з Германіі, Грэцыі, Расіі, Украіны, Літвы, Малдовы і Беларусі.**

Гэтым разам арганізатары праявілі цікавасць не да пастановак топавага фестывальнага ўзроўню, а да звычайных рэпертуарных спектакляў — "штодзённага жыцця тэатра". Мастацкі кіраўнік фестывалю Аляксей Ляляўскі і дырэктар фестывалю Яўген Клімакоў прызнаюцца, што іх думкі па фарміраванні праграмы маглі быць і іншымі, але бюджэт, на які першапачаткова разлічвалі арганізатары, скараціўся ледзь не ўдвая.

Аднак "штодзённае жыццё тэатра" — не значыць нецікавае і шараговае. Праграма фестывалю, як звычайна, складаецца з двух блокаў: спектаклі для дзяцей і для дарослых. У дарослым блоку пераважае класіка. Гледачы змогуць пабачыць адразу два спектаклі па творах Аляксандра Пушкіна — "Пікавая дама" Гродзенскага абласнога тэатра лялек і "Вершнік CUPRUM" тэатра "Лялечны фармат" з Санкт-Пецярбурга (дарэчы, гэты спектакль — лаўрэат Расійскай нацыянальнай тэатральнай прэміі "Залатая маска" ў намінацыі "Лепшы спектакль тэатра лялек", што яшчэ раз падкрэслівае шматзначнасць выказвання арганізатараў пра штодзённасць). Акрамя таго, лялечныя майстры ўвасобяць на сцэне "Караля Ліра" Уільяма Шэкспіра, "Шлюб" Вітальда Гамбровіча, "Сабачае сэрца" Міхаіла Булгакава ды "Дзікае паляванне караля Стаха" Уладзіміра Караткевіча.

У блоку дзіцячых спектакляў іншая тэндэнцыя — побач з класічным рэпертуарам ("Прынцэса і свінапас" Ганса Хрысціяна Андэрсена ад Беларускага тэатра "Лялька" з Віцебска ды "Цудоўная дудка" Віталя Вольскага ад Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" з Маладзечна) назіраецца цікавасць рэжысёраў да сучаснай драматургіі. Аднак у большасці гэта рэжысёры запрошаных калектываў: Каунаскага дзяржаўнага тэатра лялек з Літвы, што пакажа на фестывалі спектакль "Сямейка з вялікага гаю" па п'есе Дайвы Чэпаўскайтэ; Валынскага акадэмічнага абласнога тэатра лялек з украінскага Луцка, які прывязе пастаноўку па Рыгору Осцеру "Шматкі па закутках" ды інш. Дарэчы, у гэтым годзе і пасля ранейшых спектакляў плануецца ладзіць абмеркаванні, каб кожны з маленькіх гледачоў мог запытаць непасрэдна ў стваральнікаў спектакля пра тое, што яго зацікавіла ці ўзрушыла.

На прэс-канферэнцыі, якая папярэднічала фестывалю, Аляксей Ляляўскі зазначыў: "Беларускі тэатр лялек часта хваляць і кажуць, што ён самы лепшы, перспектыўны і авангардны. Праграма гэтага фестывалю задумана так, каб выявіць прысутнасць у нас гэтага авангарду ці, наадварот, пэўныя праблемы з ім". Свае высновы гледачы ды ўдзельнікі фестывалю змогуць зрабіць, як толькі сімпатычны Бурацiна з эмблемы фестывалю здзейсніць кароткую пасадку на сталічных тэатральных пляцоўкі.

*З-пад пяра*

➤Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры падрыхтавана літаратурна-дакументальная выстаўка "Апякункі паэтычных нябёсаў", прысвечаная творчасці дзевяці (па колькасці муз, апякунак мастацтва) найбольш яркіх прадстаўніц беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя. Еўдакія Лось і Данута Бічэль, Вера Вярба і Ніна Мацяш, Таіса Бондар і Валянціна Коўтун, Раіса Баравікова, Яўгенія Янішчыц і Галіна Каржанеўская. Жывыя і да часу пайшоўшыя ў Нябёсы, яны рабілі і робяць сваёй паэзіяй свет дабрэйшым, набліжаючы нас да разумення сэнсу жыцця. Рэчы з музейных фондаў і асабістых архіваў паэтэс дапамогуць наведвальнікам скласці вобраз нашых беларускіх муз.

**Мікалай БУЙСКІ**

➤У атмасферу прыгажосці, маладосці і радасці акунуліся ўсе, хто патрапіў у якасці ўдзельнікаў і гледачоў на I Міжнародны студэнцкі фестываль сучаснага танца "Зрабі крок наперад!", які адбыўся ў Віцебску. Двухдзённы форум прайшоў на базе Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны. У свяце ўдзельнічалі больш як сто студэнтаў з дзевяці вышэйшых навучальных устаноў Беларусі і Расіі пераважна аграрнага профілю. Танцы ў стылі Street Dance, Джаз-мадэрн, хіп-хоп, рок-н-рол складаліся ў сапраўдную феерыю рухаў, пластычных вобразаў, гукаў. Цудоўным дадаткам да асноўнай конкурснай праграмы сталі майстар-класы, прапанаваныя народнай студыяй сучаснага танца Ірыны Бухавецкай, тэатрам-студыяй сучаснай харэаграфіі Дзіяны Юрчанкі, шоу-балетам "Сенсацыя", танцавальным калектывам па брэйк-дансе "Фенікс".

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

➤Яшчэ адзін музей з'явіўся ў Мінску. На базе культурна-асветніцкай установы "Цэнтр акеанаграфіі «Адкрыты акіян»" узнік Музей падводнага флоту імя Карла Шыльдэра. Не кожнаму вядома, што чалавек, у гонар якога названы музей, — наш зямляк, паводле праектаў якога была пабудавана першая ў свеце цэльнаметалічная субмарына. Пра Шыльдэра і іншых суайчыннікаў, чый унёсак у развіццё падводнага флоту нельга недаацэньваць, пра тое, як выглядалі самыя першыя падводныя лодкі і як іх будуюць сёння, пра бессмяротныя подзвігі ваенных маракоў-падводнікаў і шмат пра што іншае раскажуць наведвальнікам музея дасведчаныя гіды. А на ўрачыстым яго адкрыцці, між іншым, было абвешчана і пра стварэнне класаў гардэмарынаў на базе Цэнтра акіянаграфіі — каб не перавяліся ў Беларусі людзі мужнай прафесіі, улюбёныя ў мора.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

➤Дзіцячая мастацкая студыя "У гасцях у Цюбіка" адкрыта на базе гомельскай карціннай галерэі Гаўрыіла Вашчанкі. Некалькі груп для хлопчыкаў і дзяўчынак пяці-васьмігадовага ўзросту пачнуць спасцігаць асновы жанраў выяўленчага мастацтва пад кіраўніцтвам руплівага майстра Лізаветы Аўчыннікавай. Не толькі практычныя заняткі, але і наведванне выставак, якія будуць праводзіцца ў галерэі, сустрэчы з вядомымі мастакамі ўключаны ў праграму навучання.

**Лізавета ВІХУРА**

*Глыбокае-2012*

# Са святам пачакаем!

**1 мая — Свята працы, у савецкія часы — Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных усіх краін. У кнізе "Памяць. Глыбоцкі раён" прачытаў: "З нагоды Першамая члены Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП у 1903 і 1905 гадах арганізавалі маёўкі ў Лаўрынаўскім лесе, што за 2 км ад мястэчка. Прысутныя выступалі з патрабаваннямі: «Далоў царскае самадзяржаўе», «Няхай жыве рэвалюцыя!»"**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава**



*Вуліца Леніна ў Глыбокім, на якой пераважаюць забудовы канца XIX — пачатку XX стагоддзя.*

Сёлета на гэты дзень маёўка, святочная дэманстрацыя і шэсце не запланаваны. "Спяваць, весяліцца будзем 2 верасня, — амаль у адзін голас заяўляюць глыбачане, — а сёння трэба горад прывесці ў парадак, каб не чырванець перад гасцямі". Людзей па-добраму "завялі" тым, што Глыбокае хоць на дзень стане "сталіцай".

— Мы ўжо з восені рыхтуемся да Дня беларускага пісьменства, — расказвае начальнік аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама Міхаіл Чарапкоўскі. Часу застаецца мала. Не чакаючы поўнага фінансавання, самі зарабляем і прыцягваем грашовыя сродкі. Суботнікі, дапамога спонсараў, прадпрыемстваў — усё гэта папаўняе і папоўніць бюджэт свята. Актыўна займаемся добраўпарадкаваннем. 1 Мая многія будуць наводзіць прыгажосць на тэрыторыях сваіх прадпрыемстваў і арганізацый, вуліцах і скверах. Дапамагчы нам стараюцца і абласныя ведамствы. Напрыклад, "Віцебскаблсаюздрук" адрамантаваў адміністрацыйны будынак, а да верасня замест існуючых кіёскаў будуць устаноўлены чатыры сучасныя гандлёвыя павільёны.

Ад сябе дадам: горад прыгажэе на вачах. У цэнтры стваараецца парк адпачынку — на беразе возера і дзвюх рэчак. Праз рэчку Крывая, якая злучае азёры Кагальнае і Вялікае, будуць перакінутыя маляўнічыя масткі, побач з'явяцца альтанкі.

У арганізатараў свята, кіраўнікоў раёна шмат цікавых задум. Прыцягненню гасцей, напэўна, будзе садзейнічаць адзін з цікавейшых аб'ектаў — свая маленькая Венецыя. У межах Глыбокага знаходзіцца пяць азёр, што само па сабе ўнікальна. Тры з іх — Кагальнае, Беразвечскае і Падлазнае — злучаюцца пратокамі. Калі іх пашырыць, паглыбіць ды акультурыць, атрымаецца цудоўны водны турыстычны маршрут даўжынёй каля сямі кіламетраў. Прайсці яго можна будзе на лодках ці катамаранах і, вандруючы па воднай гладзі, шмат чаго ўбачыць. Ці зазірнуць на конна-спартыўную базу і, перасеўшы на гнядога, вярнуцца ў горад вярхом.

На беразе возера Пліса ствараецца комплекс, які можа не толькі стаць альтэрнатывай заморскім курортам, але і ўнесці на палатно нашай гістарычнай памяці і турындустрыі новыя і яркія фарбы. Да Дня беларускага пісьменства запланавана адкрыццё першых гасцявых хатак. А ў 2014 — 2015 гадах пачнуць працаваць санаторны комплекс і замак у сярэднявечным стылі.

Побач з аздараўленчым комплексам будуецца другі — этнічны культурна-гістарычны цэнтр. Архітэктурны праект распрацаваў Армен Сардараў, прафесар Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. На штучным востраве пабудуюць замчышча, абгарадзіўшы яго драўлянымі сценамі-гароднямі паводле тыпу крэпасцей часоў Полацкага княства. Другую палову вострава зойме каменная цытадэль, падобная да рэзідэнцый уладароў Вялікага Княства Літоўскага. Паміж двума бастыёнамі з'явіцца палац-музей.

У перспектыве на ваду паставяць парусднікі, чоўны. Берагавая лінія Плісы — каля 40 кіламетраў: не спяшаючыся вандроўнікі будуць плыць і рабіць прыпынкі, сыходзячы на бераг і любуючыся славутасцямі навакольля, напрыклад, малой радзімай Ігната Буйніцкага, стваральніка першага беларускага тэатра. Непадалёку — знакаміты Мосар. Калі глядзець шырэй, то можна будзе арганізаваць аднадзённыя экскурсіі на вадзе ў Полацк і Глыбокае.

На гэтых і іншых аб'ектах з ранку да позняга вечара кіпіць работа.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

*З пошты «ЛіМа»*

## Таямніцы жыцця

***Замалёўка з натуры***

У цэнтры сталіцы ёсць месца, якое называецца Верхні горад. На самым пагорку стаіць гарадская ратуша, з аднаго боку, праз праспект Пераможцаў — каталіцкі кафедральны Сабор Дзевы Марыі, з другога — новабудоўля: канцэртная зала "Верхні горад". Побач — праваслаўны кафедральны сабор, а справа ад яго вялікі будынак былога бернардынскага кляштара, у якім не так даўно быў архіў. Архіў ужо вывезлі гады са два таму, а будынак ніяк не вяртаюць вернікам.

Як у нас усё паўтараецца! Больш як дваццаць гадоў таму мы восем месяцаў маліліся на прыступках колішняга спартыўнага таварыства "Спартак", бо яно месцілася ў каталіцкім храме. І цяпер гэты храм дзейсны, хаця і заціснуты з двух бакоў сучаснымі забудовамі.

Што робяць людзі ў храме? Адказ навідавоку: канечне, моляцца. Там гучыць тое, што падтрымлівае душу чалавека, робіць яго мацнейшым, лепшым. Там утрымліваецца, падмацоўваецца духоўны стрыжань нашага народа. Калі чалавек уважлівы, то пабачыць, што архітэктурны стыль нашага праваслаўнага кафедральнага сабора не адпавядае выгляду звыклых праваслаўных храмаў, дзе вяршыняць купалы-макаўкі. І ў гэтым наша адметная талерантнасць, нашы гістарычныя абставіны.

Недалёка ад гэтага храма ўзнеслася новабудоўля "пад старыну" — канцэртная зала "Верхні горад". Але ж тое, што гучыць з эстрады, далёка не заўсёды адпавядае духоўным патрэбам.

Думаю, не проста так у даўнія часы нашы продкі ў Верхнім горадзе пабудавалі побач столькі храмаў. Некаму гэта было патрэбна. Патрэбна гэта і нам! Бо будучыня — не за рытмамі, якія ўзбуджаюць жывёльныя інстынкты ды распальваюць жарсці. Чалавеку важна пачуць голас свайго сэрца, навучыцца разумець сябе, навучыцца любіць. Нам варта ўспомніць, што Зямля і ўсё, што на ёй, і мы таксама, створаны Божай любоўю. Толькі, на вялікі жаль, рэдка дзе, акрамя храмаў, мы памятаем пра гэта.

**Ядвіся РАЙ**

*Партрэт на фоне кнігі*

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

# Пра пісьменнікаў, герояў і барацьбу дабра са злом



Калі ў памятных 1990-х так шмат казалася пра пагібель айчыннай літаратуры, то гэта датычыла перш за ўсё мастацкай прозы ў класічным яе выглядзе. І сапраўды, здавалася, што раптам "вымерла", адразу стала нецікавай ледзь не палова тэм, якія так прыцягвалі ўвагу чытачоў у Савецкія часы. Пісаць "вытворчыя" раманы? Пры эканоміцы, якая на мяжы развалу, — выглядае бязглузда. Героі-партыйцы і "правільныя" камсамольцы сышлі ў Лету. Пра непераадольныя цяжкасці простага люду ў эпоху разлому? А як разабрацца з першага погляду, хто сапраўдны вінаўнік, і як падказаць чытачу выйсце з тупіка? Гістарычны раман? Але ж адкрытыя раптам "засакрэчаныя" архівы прадставілі мінулае зусім не падобным да таго, якое ўяўлялася нам раней, і многія гістарычныя куміры відавочна ператварыліся ў ліхадзеяў.

Гэта быў час, калі ў прозе на авансцэну бессаромна "вылезлі" крымінальныя раманы самага нізкага гатунку, "любоўнае" чытво і бліскучае, як навагодняя ёлка, але пераважна пустое "фэнтэзі". Вынесці на суд чытача ў такі незразумелы час кнігу апавяданняў у самым што ні на ёсць "традыцыйным" выглядзе было для пісьменніка сапраўдным учынкам.

Саракагадовы журналіст Уладзімір Дуктаў зрабіў гэта, выдаўшы ў 1993 годзе зборнік прозы "Дзякуй і даруй", з якім праз год, у 1994-м, быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Сёння ў яго — чатыры самастойныя кнігі і мноства літаратурных публікацый у калектыўных зборніках і перыёдыцы. Ён узначальвае Магілёўскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, спалучаючы арганізацыйную работу з вялікай працай па адраджэнні на Магілёўшчыне роднай мовы і нацыянальнай свядомасці.

**— Уладзімір Уладзіміравіч, ці верыце вы ў штосьці да апантанасці?**

— Без веры ў справу, за якую бярэшся, зрабіць нешта вартае немагчыма. Ячшэ веру ў калектыўны розум, які ўсіх нас, творцаў, і трымае на плыву, робіць наша існаванне асэнсаваным і карысным грамадству.

**— Што павінна адбыцца, каб вы вырашылі: сэнс жыцця страчаны?**

— Калі раптам знікнуць выдавецтвы і перыядычныя выданні. Але такое цяжка сабе ўявіць.

**— Сапраўдныя сяброўства — ці магчымае яно ў пісьменніцкім асяроддзі?**

Мой суразмоўца ўсміхаецца, пытанне — балючае для многіх літаратараў, якія па ўласным сумным вопыце ведаюць, і што такое зайздрасць, і што такое нядобразычлівасць калег па пісьменніцкім цэху. Аднак і тут адказ нібыта даўно асэнсаваны:

— Мне як кіраўніку абласной пісьменніцкай сябрыны якраз і належыць паводле абавязку ствараць сапраўднае пісьменніцкае асяроддзе, што я і імкнуся ўвесь час рабіць. А цяпер абставіны для гэтага — самыя спрыяльныя.

Маецца на ўвазе, безумоўна, усё большае праяўленне ўвагі да пісьменнікаў і іх творчасці з боку кіраўніцтва Беларусі. Заахвочванне літаратараў да стварэння сапраўды вартых кніг, якія маглі б стаць дапаможнікамі жыцця для сучасных чытачоў, — відавочнае.

**— Ваш ідэал у літаратуры?**

— Перш за ўсё самі творцы. Лепшыя. Сярод іх і тыя, каго ведаю толькі па творчасці, вядома, сучаснікі, з кім асабіста знаёмы і іду па жыцці. Іх адданасць, пошук і жыццёвыя ахвяраванні, без якіх не ствараецца сапраўдная літаратура, не дазваляюць быць безгалосым, слабым чалавекам.

Урэшце, назваўшы з тузін сучаснікаў-творцаў у якасці прыкладу, Уладзімір Уладзіміравіч дадае, што асабіста яму непрыемна, калі пісьменнік, сцвярджаючы нейкія прыярытэты ў кнігах, сам не адпавядае ім, не можа ўзняцца да ўзроўню станоўчых герояў уласных твораў.

Мяне прыцягвае некалі звыклае словазлучэнне "станоўчы герой". Некаторыя творцы сёння сцвярджаюць: літаратура, якая дзеліць герояў на "станоўчых" і "адмоўных" — бязбожна састарэла. Як і звычайны чалавек, персанаж не павінен складацца толькі са святла альбо толькі з цемры. Аднак бачна, што ў вызначэнне "станоўчы герой" Дуктаў укладае нейкі іншы, больш важны, больш глыбокі сэнс.

— Любы літаратурны сюжэт заўжды трымаецца на барацьбе дабра і зла, — кажа ён.

Тады зразумела: станоўчы герой той, які адстойвае пазіцыі дабра, адмоўны — яго апалагет. А слабасці, недахопы, характэрныя рысы персанажа, якія ператвараюць яго з манекена ў жывога чалавека, — гэта, безумоўна, у сучаснага творцы будзе, павінна быць.

**— Характэрныя рысы героя ў мастацкай літаратуры часта звязаны з каханнем, якое "прыдумляе" для яго аўтар. А якое месца ў вашым жыцці і творчасці займае каханне?**

— Мае два дзяды-чырвонаармейцы загінулі на фронце ў гады Вялікай Айчыннай вайны. І мне, крычаўляніну-гараджаніну, з дзяцінства даводзілася разам з бацькамі і старэйшым братам дапамагаць нашым бабулькам у вёсках нарыхтоўваць сена для каровак, секчы дровы, пасвіць радоўкі ўлетку. Бабулькам было цяжка спраўляцца адным — пасля вайны яны так і не выйшлі другі раз замуж. Кахалі загінулых мужоў… А наогул, каханне чалавек шукае па ўласным захапленні ў жыцці. Мне мае захапленне кнігай дапамагло звярнуць увагу на дзяўчыну такой роднаснай прафесіі, як бібліятэкар. Мы разам больш як трыццаць гадоў, маем сына, нявестку і дзвюх цудоўных маленькіх унучак, якім перадаём захапленне літаратурай…

Узняцца да ўзроўню сваіх лепшых літаратурных герояў у справах і ў асабістым жыцці — здаецца, Уладзіміру Дуктаву гэта сапраўды ўдалося.

Да 100-годдзя Максіма Танка

# Пяць гадзін з Паэтам

Мікола СІСКЕВІЧ-НАРАЧАНСКІ,
фота з архіва аўтара

Вясной 1982 года рэдакцыя мядзельскай раённай газеты "Нарачанская зара" запрасіла мяне на працу. І адразу камандзіроўка была ў калгас, на радзіму Максіма Танка. У першамайскім нумары выйшаў мой фотанарыс "Жывых крыніц гаючы сок…" Пасля да 70-годдзя вялікага паэта "Нарачанская зара" падрыхтавала спецыяльны выпуск. На першай старонцы быў змешчаны партрэт Героя Сацыялістычнай Працы Максіма Танка, яго зварот да землякоў, а таксама прывітанне кіраўнікоў раёна да Яўгена Іванавіча.



М. Танк сярод моладзі.

Як цяпер бачу гэты нумар раёнкі. Пад партрэтам пісьменніка красаваліся радкі Якуба Коласа:

*Максіма па прозвішчу Танка*
*Забыць я ніяк не магу.*
*Паэзія светлага ранку*
*І нашай зямлі калыханка*
*Квітнее ў яго мурагу.*

Далей быў змешчаны артыкул пісьменніка Я. Садоўскага "Таленавітая ліра". Настаўніца В. Пястун напісала да гэтага дня свой роздум "Глыбокі след яго паэзіі". Пра жыццё і творчасць майстра слова гаварылася ў публіцыстычным нарысе "Народны паэт".

"Нарачанская зара" змясціла фотаздымак юбіляра з яго маці Домнай Іванаўнай, а таксама верш "Родная мова". Тут жа былі надрукаваны вершы Рыгора Барадуліна і Мечыслава Шавовіча, шмат іншых матэрыялаў і фотаздымкаў.

У час падрыхтоўкі нумара Яўген Іванавіч запрасіў мяне прыехаць на яго нарачанскую сядзібу. За пяць гадзін мне давялося пабыць у садочку каля хаты Максіма Танка, паразмаўляць з паэтам, разам палюбавацца возерам Нарач, сфатаграфавацца.

Тажы ж міжволі былі падказаны мне славутым земляком гэтыя радкі:

*Ёсць на Нарачы адна затока.*
*Трапіў побач на свае сляды.*
*З далечы шчасліва-прагным крокам*
*Я ступіў, і вось бягу сюды.*





Незабыўнае інтэрв'ю на беразе Нарачы.

---

Вольга ПАСІЯК

# ЛіМ: 1947

Сусветнавядомую "Карміну Бурану" Вагнера, напэўна, ніколі не ўбачаць на сцэнах сваіх тэатраў жыхары Ізраіля. Геніяльны кампазітар, калі працаваў над шэдэўрам, нават уявіць не мог, што менавіта гэту музыку будуць асацыіраваць з асобай Гітлера. Прыцягнуць за вушы паралелі. Афарбуюць пранікнёную мелодыю новымі сэнсамі.

Дарэчы, многіх беларускіх творцаў таксама магла праследаваць нядобрая слава, якой пад сілу адбіць у аўдыторыі ахвоту нават згадваць іх імёны. Так, у далёкім 1947 годзе, калі Сталін быў безварыянтным кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, на старонках савецкай прэсы актыўна ўсхвалялі дасягненні кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных, у склад якога былі ўключаны многія нашы пісьменнікі і кампазітары. Вось толькі рэальныя іх творчыя дасягненні зацьмяваліся навязанымі псеўдаадкрыццямі і штучнай шэдэўральнасцю.

Сярод іх Аркадзь Куляшоў. Вяршыняй яго творчасці называлі вершы, прысвечаныя "роднаму бацьку Сталіну":

*Зірні на рысы твару дарагога,*
*Як я, ты зразумееш зноў і зноў,*
*Што гэта бацька родны,*
*У якога*
*Шмат на вяку загінула сыноў.*
*Яму за сына кожнага асобна*
*Балела сэрца ў часы нягод.*
(ЛіМ, 1947, 11 студзеня).

Такая атмасфера творчых дасягненняў акружала і другога беларускага літаратара Міхася Лынькова. Не, яму не прыпісвалі бяздумнае пакланенне сталінскаму рэжыму, але, калі верыць прэсе, лепшае, што зрабіў гэты пісьменнік, "*паказаў у сваіх апавяданнях, як новы, самы дэмакратычны сацыялістычны лад, глыбока пранік у побыт савецкіх людзей, выявіў творчыя сілы народа, абумовіў сабою самыя выдатныя рысы ў характары савецкіх людзей: самаахвярнасць, гераізм, вернасць абавязку, сціпласць і маральную чыстату*" (ЛіМ, 1947, 11 студзеня).

Наступны нумар газеты — новае вядомае прозвішча. Праз дзесяцігоддзі мы ганарымся творчасцю Заіра Азгура, які падарыў другое, няхай і гранітнае, жыццё многім легендарным асобам. Але тады, у далёкім 1947-м, толькі і заставалася, што праяўляць штучнае захапленне створанай скульптарам групы "Ленін і Сталін — арганізатары Савецкай дзяржавы…" Дый творчыя планы яго здаваліся не самымі багатымі: "*Да 30-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ён мяркуе стварыць новую работу: "І. В. Сталін — Генералісімус Савецкага Саюза*" (ЛіМ, 1947, 18 студзеня). Такое выпрабаванне давялося прайсці і мастаку Івану Ахрэмчыку. "*Асаблівую ўвагу бярэ хвалюючая паводле зместу карціна "Паседжанне ЦК ЦП(б)Б у г. Лёзне пасля трансляцыі на радыё выступлення І. В. Сталіна… Так і адчуваецца, калі глядзіш на карціну, што бальшэвікі Беларусі на заклік правадыра адказваюць гатоўнасцю весці няшчадную барацьбу з ненавісным фашысцкім зверам да поўнага яго знішчэння і выгнання з роднай зямлі*" (ЛіМ, 1947, 18 студзеня).



ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН САЮЗА САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І КІРАЎНІЦТВА ПА СПРАВАХ МАСТАЦТВА ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БССР

№ 1 (607) | Субота, 22 сакавіка 1947 года. | Цана 50 кап.

XII Пленум ЦК КП(б) Беларусі

Інфармацыйнае паведамленне

Выдатнымі творамі сустрэць 30-ую гадавіну Вялікага Кастрычніка

Да 30-годдзя Кастрычніка

Песня аб шчасці

Работнікі мастацтва Беларусі да веснавой сяўбы

ЗВАРОТ КАЛЕКТЫВА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ ДА ЎСІХ РАБОТНІКАЎ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

Новыя пастаноўкі Бабруйскага тэатра

Да выстаўкі самадзейнага мастацтва

Крыўдна і за іншага таленавітага мастака Міхаіла Керзіна, які захапляўся рэльефам і медальёрным мастацтвам, што "*дапамагло яму працаваць над стварэннем медалёў, у тым ліку над медалём Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі*" (ЛіМ, 1947, 25 студзеня). Вось толькі ці такія мары творцы падчас натхнення?

Творчасць Петруся Броўку таксама ацэньвалася аднабакова: "*У вялікага паэта нашага часу В. Маякоўскага П. Броўка вучыцца рэвалюцыйнаму пафасу, размаху і смеласці. Ён імкнецца таксама ўявіць сабе будучыню, канчатковую перамогу светлых ідэалаў комунізма*" (ЛіМ, 1947, 18 студзеня). Аналагічная сітуацыя і з Максімам Танкам: "*Ён як бы адчуваў ужо сябе грамадзянінам вялікага Савецкага Саюза, і з гэтай вышыні разглядаў і ацэньваў усе з'явы, што адбываліся навокал*" (ЛіМ, 1947, 18 студзеня).

Але сапраўднай загадкай гэтага перыяду стаў Кандрат Крапіва. Ці то яго геніяльнасць аказалася не па зубах савецкай ідэалогіі, ці то яго творчасць здавалася больш свабоднай, праўдзівай і, што не менш важна, цікавай у любыя часы. Калегі пісьменніка спявалі яму дэфірамбы кшталту: "*Вы ствараеце вартую свайго народа савецкую літаратуру*" (ЛіМ, 1947, 22 лістапада). У сваю чаргу крытыкі ўзнімалі творчасць "пякучкі Крапівы" да ўзроўню эталону: "*Узросшы на вялікіх традыцыях сатырычных пісьменнікаў мінулага Крылова і Салтыкова-Шчадрына, ён стварае ў беларускай літаратуры савецкую сатыру, якая шчыльна звязана з перадавымі ідэямі сучаснасці і служыць барацьбе за перамогу над знешнімі і ўнутранымі ворагамі, за перамогу новай комуністычнай маралі*" (ЛіМ, 1947, 25 студзеня). Скептычныя савецкія крытыкі ацанілі кампазітара Анатоля Багатырова: "*Пасля сканчэння кансерваторыі ў 1937 годзе кампазітар праз два гады прынёс у тэатр оперы і балета партытуру сваёй першай оперы "У пушчах Палесся" па аповесці Якуба Коласа "Дрыгва". Опера з'явілася буйнейшай творчай перамогай кампазітара і вартай падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі*" (ЛіМ, 1947, 25 студзеня). І сапраўдныя аматары музыкі не маглі не прызнаць, што пры ўсёй атмасферы саветызаванасці першая сольмінорная сімфонія Багатырова "*з'ўляецца яркім сведчаннем таго, як вялікі лірычны талент кампазітара ў спалучэнні з тэхнічным майстэрствам накіраваў яго на правільны шлях стварэння твораў манументальных форм*" (ЛіМ, 1947, 24 мая).

І, зразумела, нельга не сказаць пра Якуба Коласа, іменем якога таксама нямала спекулявалі правадыры сталінскага мастацтва: "*Залатое жыццё прынесла народам Расіі Вялікая Кастрычніцкая Социялістычная рэвалюцыя. Якуб Колас сустрэў яе паэмамі "Новая зямля" і "Сымон Музыка", якія былі пачаты яшчэ да рэвалюцыі і з'яўляюцца самымі выдатнымі творамі паэта*" (ЛіМ, 1947, 1 лютага).

Час расставіў акцэнты так, як было наканавана лёсам. І рэальнасць ужо неаднойчы даказвала простую ісціну: сапраўдная творчасць праходзіць выпрабаванне часам, сацыяльнымі ўмовамі, зменай пакаленняў прыхільнікаў. На шчасце, сёння музыка Багатырова, творы Крапівы і дасягненні іншых творцаў не навяваюць нам успаміны пра блок камуністаў і беспартыйных. Нас уражвае веліч скульптурнай кампазіцыі Азгура на плошчы Якуба Коласа ў Мінску, і ў памяці ўсплываюць поўныя натхнення радкі: "Мой родны кут, як ты мне мілы…". І ад іх патыхае не камуністычнай прапагандай, а сапраўднай душэўнай цеплынёй.

***Арыгіналы выдання прадстаўлены Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі***

---

# Спадчына дэтэктываў мінулага

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя навуковага выдання "Археологическое наследие Беларуси", а таксама іншых найноўшых даследаванняў археолагаў, што пабачылі свет у выдавецтве "Беларуская навука".**

Цікавасць да археалагічнай спадчыны ўзнікла на землях Беларусі ў канцы XVIII ст. А ўжо ў наступным стагоддзі адбываецца фарміраванне адпаведнай навуковай дысцыпліны. З таго часу айчынныя даследчыкі шмат зрабілі для вывучэння свайго краю. Наспела неабходнасць абагуліць зробленае, што і было ажыццёўлена ў выданні "Археологическое наследие Беларуси", якое выйшла пад навуковай рэдакцыяй дактароў гістарычных навук Аляксандра Кавалені, акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, і Вольгі Ляўко, загадчыка Цэнтра гісторыі даіндустрыяльнага грамадства Інстытута гісторыі.

Як адзначыў на прэзентацыі дырэктар Інстытута гісторыі Вячаслаў Даніловіч, за апошнія гады ў археалагічнай навуцы Беларусі адбыўся сапраўды прарыў. З'яўленне "Археологического наследия Беларуси" — адно з яго сведчанняў. Кніга адкрываецца ўводным артыкулам, у якім прадстаўлена гісторыя беларускай археалогіі. Асноўную частку складае матэрыял, што раскрывае багацці нашых зямель — ад глыбокай старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Кожны помнік мае навукова-даведачны апарат.

Да імпрэзы супрацоўнікі бібліятэкі арганізавалі выстаўку "Археалогія Беларусі: вытокі і сучаснасць", якая складалася з двух раздзелаў. У першым, "Археалогія ад першабытнага да Новага часу", былі прадстаўлены выданні і дакументы, у якіх адлюстраваны этапы станаўлення беларускай археалогіі як самастойнай галіны навукі. Адно з самых ранніх выданняў — "О курганах в Литве и Западной Руси" (1865) Канстанціна Тышкевіча. У другім раздзеле наведвальнікі змогуць убачыць артэфакты з фондаў Археалагічнага музея Інстытута гісторыі, знойдзеныя ў мінулым годзе падчас даследаванняў. Самыя старажытныя з іх, адшуканыя на Крывінскіх тарфянікавых стаянках, датуюцца IV — III тысячагоддзямі да н.э.

Выстаўка будзе працаваць у памяшканні бібліятэкі на працягу двух тыдняў. Што датычыць вынікаў працы "дэтэктываў мінулага" — так называла археолагаў Агата Крысці — з выданнем ужо можна пазнаёміцца ў чытальных залах і набыць у кнігарнях.

# Вялікая аповесць пра маленькую жывёлінку

**Аповесць Васіля Жушмы "Гарэза" яшчэ раз пераконвае, што зямля берасцейская багатая на таленты. У палескай глыбінцы ў Іванаўскай раённай газеце працуе чалавек, які віртуозна валодае словам. Тонкая душа, чулае сэрца, дабрыня і спагада, а яшчэ фанатычная любоў да роднай зямлі далі магчымасць Васілю Жушму напісаць вялікую аповесць пра жыццё маленькай жывёлінкі — вавёрачкі Гарэзы. Вы, шаноўны чытач, падумаеце, што я даю занадта высокую ацэнку не вядомаму асабліва журналісту раёнкі. Ды не, пішу чыстую праўду! Не верыце? Прачытайце твор і  пераканаецеся самі.**

Уладзімір СЕНЬКАВЕЦ

Ва ўступе да "Гарэзы" аўтар піша: "Не адзін раз прыходзіла думка напісаць пра вавёрку, расказаць пра яе жыццё, такое няпростае ў свеце дзікай прыроды. Але нешта ўвесь час стрымлівала, не давала ўзяцца за пяро, пакуль не прыйшла ідэя праз лёс адной вавёрачкі паказаць самыя розныя бакі жыцця беларускага лесу". З'яўленню аповесці папярэднічала доўгае карпатлівае вывучэнне пісьменнікам прадмета ўласных зацікаўленняў: было зроблена мноства фотаздымкаў, чарнавых накідаў. У прыватнай размове Васіль Пятровіч распавёў, што напачатку напісаў некалькі асобных лірычных мініяцюр пра паводзіны вавёрачкі, пасля яшчэ. З цягам часу з'явілася неабходнасць нейкім чынам аб'яднаць іх пад адной вокладкай. Так і атрымалася аповесць. "Але, — як падкрэслівае сам аўтар, — не зусім звычайная, а складзеная з асобных абразкоў-апавяданняў. Знітоўвае іх у адно цэлае пастаянная прысутнасць вавёрачкі".

Прамая кампазіцыя спрыяе лёгкаму ўспрыманню аповесці. Васіль Жушма знарок выбраў менавіта храналагічную паслядоўнасць аповеду, бо твор адрасуецца найперш дзіцячай аўдыторыі. З улікам узросту чытача пісьменнік то вавёрцы перадае ролю апавядальніка, то выступае з пазіцыі спецыяліста-біёлага або староннягa назіральніка. Развіццё дзеяння, такім чынам, падаецца з некалькіх пунктаў гледжання.

У аповесці "Гарэза" праблема аўтара заключалася ў выбары такіх пунктаў гледжання, якія маглі б раскрыць псіхалогію паводзін дзікай жывёлы. Васіль Жушма звярнуўся да прыкладаў з класічнай літаратуры, у якой падобныя героі сустракаюцца шматразова. Мы можам прыгадаць творы Рэдзьярда Кіплінга, Фенімора Купера, Джэка Лондана, Міхаіла Прышвіна, Эрнэста Сетона-Томпсана, Віталя Біянкі, Віктара Астаф'ева, Валянціна Распуціна, Віктара Карамазава, Алеся Жука, Алеся Наварыча і многіх іншых.

Рэдзьярд Кіплінг, напрыклад, у вобразе Рыкі-Цікі-Таві паказаў адначасова два бакі смелых учынкаў маленькага звярка: з яго ўласнага пункту гледжання — прыродное прызначэнне мангуста знішчаць змеяў, а з пункту



гледжання яго сяброў — жывёл і птушак, а таксама людзей — гераізм, самаахвярнасць у імя выратавання іншых жыццяў. Кіплінг вельмі пераканаўча малюе вобраз Рыкі-Цікі-Таві, надзяляе яго чалавечымі якасцямі, увасабляе ў ім не толькі спрыт і смеласць, але і сціпласць. Гэта выклікае ў чытача пачуццё сімпатыі да разумнай жывёлінкі, выхоўвае любоў да прыроды.

Аповесць Васіля Жушмы таксама характарызуецца адзначанымі якасцямі: яна адкрывае перад чытачом прыгожы свет прыроды. Але беларускага творцу цікавіць не адзін эпізод з жыцця героя, а само жыццё ў яго развіцці. Васілю Жушму ўдалося стварыць своеасаблівую кнігу беларускага лесу. Вобразная сістэма аповесці вельмі багатая і разнастайная. Героі твора выклікаюць розныя пачуцці. Слабейшым чытачы спачуваюць, да драпежных ставяцца неадназначна. Жывёльны свет розны — ён існуе паводле сваіх законаў. Мэта пісьменніка — паказаць яго праўдзіва. У аповесці шмат мініяцюр, у якіх распавядаецца пра драматычныя і нават трагічныя моманты ў жыцці насельнікаў лесу: адны гінуць у няроўнай бойцы з драпежнікамі, другія ад голаду ці холаду. Здавалася б, такія эпізоды непажадана ўключаць у кнігі для дзяцей, але тады карціны будуць аднабаковымі, не адпаведнымі рэчаіснасці. Падман ці недагаворанасць пакінуць пачуццё недаверу. Таму аўтар прытрымліваецца рэалістычнага падыходу. Вавёрка Гарэза жахаецца многаму, што бачыць, перажывае за раннюю смерць маладых жывёлінак, непакоіцца пра ўласны лёс: "Страта сястрычкі зрабіла малых настолькі асцярожнымі, як астатнія дарослыя суродзічы. А ў сэрцах пасяліўся страх"; "Жудаснай, халоднай смерцю дыхала цяпер прырода. Нядаўна ў хвойніку бачыла мёртвых каралькоў. Неверагодна схуднелых, маленькіх камячкоў. Учора на яе вачах у палёце замёрзла сінічка. Зляцела з галінкі, узмахнула крыльцамі раз-другі і ўпала на снег каляровай іскрынкай прама ля вавёрчынага дуба".

Кожная маленькая навела — цікавы эпізод знаёмства жывёлінкі з навакольным светам: "Дзень нараджэння", "Дзяцінства", "Урокі жыцця", "Што такое страх".

Васіль Жушма паклапаціўся пра тое, каб чытанне аповесці было захапляльным. Першыя водгукі на твор пацвярджаюць гэтую думку: "Васіль Жушма "Гарэзай" даказаў, што ён якраз з тых, хто бачыць і разумее прыроду па-свойму" (*У. Саламаха*); "У пісьменніка атрымалася дзівосная гісторыя пра лясных жыхароў і іх узаемаадносіны з чалавекам. Перадаць таямнічы свет роднай прыроды пад сілу толькі таму, хто яе вельмі любіць" (*А. Каткавец*); "Гэта была сустрэча са Словам. Ім, шчодра прапахлым водарам лесу, прагна ўпівалася душа, і, як крынічнай вадой у летнюю спякоту, ніяк не магла наталіцца. Жыватворнае Слова ўвасобілася ў аповесць «Гарэза»" (*І. Саломка*).

Слова ў Васіля Жушмы сапраўды адметнае. Яно настоенае на лясных зёлках, праніклівае і дакладнае, гаючае і ёмістае, насычанае сокам роднай зямлі. Яно сапраўдны інструмент, які ў руках майстра ажывае, стварае цуды, малюе, карыстаючыся словамі В. Бялінскага, "паэтычную рэчаіснасць". У гэтую рэальнасць хочацца ўваходзіць, пражываць побач з героямі, назіраць за іх паводзінамі.

Васіль Жушма не надзяляе сваю гераіню здольнасцю гаварыць і разумець чалавечае слова — яна ўспрымае людскую гаворку па-свойму: цераз інтанацыю, паводзіны, выраз твару і г.д.: "Дзяўчынкі пра нешта гаварылі. Іх словы даносіліся да вавёркі быццам здалёку. Адно ўсведамляла: цёплы і ласкавы тон дзявочых галасоў. А пяшчотныя іхнія рукі ціхімі дотыкамі, здавалася, абляганлі пакуты, прыносілі палёгку". Вобраз Гарэзы нагадвае вобраз мышаняткі Піка Віталя Біянкі. Абодва пісьменнікі сімпатызуюць сваім героям і жадаюць, каб і чытачы гэтак жа ставіліся да іх. Важнай умовай спагадлівых адносін да герояў-жывёл з'яўляецца, ці паверыць чытачы ў іх праўдзівасць. Пісьменнік, часта інтуітыўна адчуваючы гэта, не перанасычвае вобразы чалавечымі якасцямі.

Гарэза — жывёлінка вельмі дапытлівая. Гэта тлумачыцца найперш яе маладосцю. Яна ўсім цікавіцца і многаму здзіўляецца, але ўспрымае жыццё такім, якім яно ёсць. Спачатку ёю кіруе інстынкт, а потым і атрыманы досвед. Яна набывае здольнасць асэнсоўваць той ці іншы ўчынак, аналізаваць свае дзеянні.

Дынаміка аповеду пастаянна змяняецца: дзеянне разгортваецца то хутка, то запаволена, то напружана, то спакойна. Часта яно перанітоўваецца лірычнымі ўстаўкамі, у якіх пісьменнік выступае сапраўдным мастаком-пейзажыстам. Такія адступленні выконваюць ролю эмацыянальнага фону. Яны дапамагаюць раскрыць характар галоўнай гераіні, паказаць асаблівасці іншых персанажаў твора.

Узнімаецца ў аповесці і тэма дабра і зла. Паняцці гэтыя ёсць у соцыуме, дзікая ж прырода жыве паводле сваіх законаў. Але як толькі ў іх умешваецца чалавек, прыродная гармонія часта парушаецца — людзі пачынаюць дэманстраваць уласную сілу. Васіль Жушма прапагандуе разумныя, добразычлівыя адносіны да свету дзікай прыроды, якія паказвае на прыкладзе сям'і з вёскі. Аўтар нават не называе людзей па імёнах ці прозвішчах — яны проста людзі, таксама жывыя стварэнні, якія да братоў сваіх меншых павінны ставіцца адпаведным чынам. Такі матыў надае аповесці вялікі выхаваўчы патэнцыял, таму я цалкам згодны з чытачамі, якія рэкамендуюць уключыць твор у школьную праграму.

Ірына Саломка ў артыкуле "Слова з водарам лесу", гаворачы пра фінальную частку твора, дзе аўтар "не ставіць фінішную кропку: замест яе таямніча-загадкава раскашуе шматкроп'е", робіць акцэнт на прадуманы аўтарскі прыём, які "сімвалізуе невычэрпнасць, бясконцасць жыцця". З такой думкай нельга не пагадзіцца. Чалавек, якога В. Жушма называе ў аповесці гаспадаром, адпускае вавёрачку ў лес, дзе яна народзіць вавёрчаняt і дзе будзе вольнай.

# «Сонца кошык промняў несла…»

Міхась ДАНІЛЕНКА

Без перабольшання скажу: калі толькі бярэш у рукі новую кнігу Міколы Чарняўскага "Сонечны кошык", міжволі адчуваеш светлую радасць. Не толькі ад каляровых малюнкаў Надзеі Барай і Алены Карповіч, але і ад паэтычных твораў, што складаюць яе. Зборнік адрасаваны маленькім чытачам, але, на маю думку, бацькі, дзядулі ды бабулі знойдуць у ім штосьці для сябе.

Мусіць, адна з галоўных прычын таго, што старонкі нібы выпраменьваюць святло і радасць, — гэта адсутнасць дыдактыкі, дакучлівых павучанняў, суровых папярэджванняў, а таксама жывая вобразная мова. Вось, напрыклад, верш "Хто такія Ж-жыл і Ж-жах". Мы сотні разоў бачылі па тэлевізары папярэджанні пра тое, як небяспечна дазваляць дзецям без нагляду "гуляцца" з запалкамі. Шчыра кажучы, рэклама тая ад частага паказу проста стала прывычнай. Не абмінуў гэтай, здавалася б, празаічнай тэмы і Мікола Чарняўскі. Аднак паэт адмысловa, па-свойму раскрыў яе. Пра "Ж-жыл і Ж-жах — братоў-гулёнаў" ён расказаў юным чытачам дасціпна і нечакана. Аказваецца:

*Каб адлежацца ў цянёчку*
*І яшчэ каго даняць,*
*У запалкавым дамочку*
*Ж-жыл і Ж-жах*
*Кладуцца спаць.*

*Да пары лагодна, чынна*
*Спяць браты,*
*Навёўшы жах...*
*Здагадаліся, магчыма,*
*Хто такія*
*Ж-жыл і Ж-жах?*

Калі чытаў і перачытваў асобныя вершы і казкі з кнігі "Сонечны кошык", мне чамусьці ўспомніліся даўнія часіны, калі я з вядомым паэтам Станіславам Шушкевічам, з якім блізка сябраваў, выступаў у родным Гомелі. Слухачамі былі не дзеці, а настаўнікі. Помніцца, Станіслаў Пятровіч чытаў вершы з толькі што выдадзенай яго кніжкі "Колькі кіпцікаў у кошкі". Мяне здзівіла, што жанчыны, якія не адзін год правялі ў школьных класах, прасілі: "Прачытайце, калі ласка, яшчэ..."



Упэўнены: шматлікія дасціпныя вершы, скорагаворкі, тым болей казкі, такія, напрыклад, як "Ласіны хутар і дзіва-камп'ютар", "Воўк-прадпрымальнік", "Пень-грыбнік", "Ліса-калядоўшчыца" ды іншыя з задавальненнем будуць перачытваць не толькі маленькія, але і дарослыя чытачы.

Цікава напісаны верш "Ліна і піяніна". Пакуль дзяўчынка Ліна "пакутавала" над нотнымі знакамі, пакуль не навучылася іх чытаць, пакуль "са скрыпам даваўся той ключ, што Скрыпічным назваўся", ад яе "брынкання" на піяніна пакутавалі ўсе блізкія. Таму ў канцы верша аўтар далікатна пытаецца ў чытача: "Ці стане піяністкай Ліна? // Спытайце лепш у піяніна".

І, вядома ж, нельга не ўтрымацца, каб хоць некалькі радкоў не працытаваць з верша, які даў назву кнізе. Сонца несла поўны кошык промняў, але "спатыкнулася над лесам, // кошык выпусціла з рук // — і рассыпаліся промні // па лістоце, // па траве…" Заканчваецца твор светла, аптымістычна:

*Я прыбег у лес апоўдні —*
*Ён спявае,*
*Ён звініць...*
*Назбіраў збанок я поўны,*
*Ды не промняў,*
*А — суніц.*

Ужо больш як паўстагоддзя я сачу за ўсім, што выходзіць з-пад пяра Міколы Чарняўскага. Шчыра радаваўся і радуюся яго творчай актыўнасці, шматграннасці яго літаратурнага майстэрства. Яго ўнёсак у нашу дзіцячую літаратуру заслугоўвае самай чыннай увагі, добрага слова. Таму ніколькі не здзівіўся, калі даведаўся, што "Сонечны кошык" вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі. У мяне асабіста няма сумнення: гэтая кніга і яе аўтар сапраўды вартыя такой высокай адзнакі.

# «Я не сумую — я жыву...»

**Бываючы ў сваёй роднай Патапаўцы, за рэдкім выпадкам не зазірну ў Буда-Кашалёўскую цэнтральную раённую бібліятэку. Якраз падчас аднаго такога наведвання яе дырэктар Ірына Ахрэменка паказала зборнік вершаў Тацццяны Атрошанкі "Не я..." і з непрыхаваным гонарам сказала: "Наша зямлячка, з вёскі Вялікі Мох. Цяпер жыве ў Маладзечне, але нядаўна прыязджала на радзіму. Да нас заходзіла, кнігу падпісала".**

**Анатоль ЗЭКАЎ**




Здавалася, пільна сачу за творчасцю землякоў: са школьных гадоў і да гэтага часу чытаю раённую газету "Авангард", з надзеяй знайсці "сваіх" вывучаю біяграфіі тых, хто выступае ў рэспубліканскім друку. Больш за тое, апошнія гады разам з Міколам Чарняўскім займаліся ўкладаннем пакуль што не выдадзенай анталогіі "Буда-Кашалёўшчына літаратурная" і, думалася, адшукалі ўсіх творцаў, нейкім чынам звязаных з раёнам.

А вось, як высветлілася, і не ўсіх. Цяпер разумею, чаму Тацццяна Атрошанка не патрапіла нам на вочы. Маладая паэтэса абмінула "Авангард", з прыступак якога звычайна стартавалі будучыя пісьменнікі з Буда-Кашалёўшчыны, не імкнулася яна асабліва і на старонкі іншых выданняў. Хоць падчас вучобы ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце і дэбютавала вершам "Маладосць мая" ў шматтыражцы, аднак раскрыўся яе талент, калі па размеркаванні паехала ў Маладзечна, дзе неўзабаве пачала кіраваць пры гарадскім Палацы культуры літаратурным аб'яднаннем "Агмень".

У анатацыі да зборніка вершаў "Не я..." сцвярджаецца, што ён "своеасаблівая кропка адліку. Гэта прыхаванае паміж радкамі пытанне: "Ці сапраўдная тут я?" Або: "Калі не я, то хто?.." А ішчэ — гэта сапраўды не я. Гэта мае мроі, перажыванні, летуценні, якія хаваюць за сабой рэчаіснасць, якія выступаюць тут на першы план і яскрава ды дэталёва вымалёўваюць маю ўнутраную існасць, якая звычайна сарамліва хаваецца за ўяўнай абыякавасцю".

У першым жа вершы, што адкрывае зборнік і дае яму назву, Т. Атрошанка заяўляе:

*У начы — дзявочы твар*
*І, здаецца, тыя ж рысы...*
*Ты пазнаў мае абрысы?*
*То не я, то цень-махляр...*

Мы таксама не будзем атаясамліваць паэтэсу з яе лірычнай гераіняй, якой не сядзіцца на месцы; яна гулліва сваволіць і часам нават дражніцца, распаляючы адпаведныя пачуцці ў тых, хто побач і каго прымушае падпарадкоўвацца правілам яе гульні. Яна не прыніжаецца, нічога не вымольвае для сябе і, нават калі агортвае сум, горда выгукае:

*Я не сумую — я жыву*
*У свеце сноў, падмане мрояў...*

*Я называю — не заву*
*Сваю самоту*
*белым птахам...*
*Я тут...*
*Я ёсць пад зорным дахам...*
*Я не сумую... Я жыву...*

Паэзія Т. Атрошанкі, выпеставаная "пад зорным дахам", абыходзіць жыццёвыя мітрэнгі і бытавыя няўладзіцы, быццам караблі рыфы; яна не столькі земная, колькі нябесная. Доказам таму — і ўлюбёнае паэтэсай слова "неба", на якое нярэдка абапіраецца яе радок, а то і ўвесь верш: "Стары мастак, згубіўшы нешта ў небе, // Душою маляваў жанчыну-восень..."; "Я хварэю зімой, // Калі неба ад снегу дрыжыць..."; "Палон кахання нам даецца з неба, // Каб некага ў палон жыцця вяртаць..." Сама ж паэзія для яе — ратунак: "Заглянула ў маю душу — // І самоты маёй не стала..."

Вершы, сабраныя ў кнізе "Не я...", насамрэч аптымістычныя; нават калі радкі пранізаныя сумам, у іх няма безвыходнасці, а ёсць пошук сябе і выйсця з тых абставін, у якія патрапляе лірычная гераіня, але тым не менш не расчароўваецца, не апускае рукі, а дзейнічае і спадзяецца на лепшае. Яна верыць: "Раніца прачнецца ціха, // І засне твая самота". І нават калі знікаюць надзеі, яна выгукае: "Я хачу безнадзейна ў вырай, // Каб з табой быць заўсёды побач..." А гэта ўжо, калі казаць па праўдзе, не так і "безнадзейна". Тым больш чытаючы прызнанне: "Апынаюся каралевай, // Калі побач іду з табой..."

Лірыка Т. Атрошанкі імпануе яшчэ і сваёй нешматслоўнасцю. Паэтэса запрашае чытача думаць, разважаць, здагадвацца. Невыпадкова амаль усе яе творы заканчваюцца не звычнай кропкай, а недамоўленым шматкроп'ем. Такая недасказанасць надае вершам своеасаблівы каларыт, а падчас і інтрыгуе: а што можа адбыцца яшчэ пасля ўжо сказанага?

Адно засмучае: у імкненні дагадзіць рытміцы паэтэса часам празмерна вольна абыходзіцца з "ў" складовым і нескладовым, парушаючы тым самым правілы арфаграфіі і збіваючы гукавы лад радка: "У радасці і у журбе // Сумуе сэрца пра цябе..."; "З тым адыходзім мы у вечнасць..."; "Бадзяга-вецер ўдаль самоту зносіў..." і г.д. Варта было б пазбавіцца і цяжкіх для вымаўлення спалучэнняў зычных "з" і "с" кшталту "горыч з свежасцю", "з светам матчыных вачэй", "з здагадкай той"... Але агрэхі гэтыя — справа, як кажуць, выпраўляльная.

Зрэшты, уласна вершы займаюць толькі трэціну кнігі. Астатні аб'ём склалі тэксты песень, музыку да якіх напісалі і вядомыя беларускія кампазітары А. Атрашкевіч, У. Буднік, Л. Захлеўны, У. Сарокін, і менш вядомыя, сярод якіх і сама паэтэса. Было б добра, каб побач змяшчаліся і ноты. Але, як кажуць, "гэта ўжо іншая гісторыя..."

**Літаратурная спадчына народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна ўражвае. Ахапіць яе ўвагай у поўным аб'ёме складана, таму некаторыя бакі творчасці застаюцца неразгледжанымі. Адным з іх з'яўляецца драматургія, адрасаваная перадусім чытачу малодшага ўзросту.**

# Дзеці аднаго дома

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

Да такіх твораў І. Шамякін звяртаўся нячаста. Аднак аўтарскае стаўленне да ўзнятай у іх праблематыкі вылучаецца сур'ёзнасцю. Так, у гераічнай драме "Дзеці аднаго дома" (1967) І. Шамякін паказаў, як дзеці ствараюць партызанскі атрад і самаадданна змагаюцца з захопнікамі. І хаця ён не імкнуўся ўпрыгожыць ход падзей, увасобіўшы драматызм становішча, стварыўшы палкія характары, усё ж у творы вельмі адчувальны наіўны рамантызм.

Нашмат больш удалай у мастацкім плане аказалася драма "Экзамен на восень" (1974), галоўным (хаця і не цэнтральным) персанажам якой з'яўляецца былая партызанка Ульяна Паўлаўна. Яна ствараe вакол сябе аўру чалавекалюбства і спагадлівасці. Тамаш, яе сын, знаходзячыся на парозе дарослага жыцця, расчароўваецца ў гэтым свеце, бо бачыць толькі адзін яго бок — хцівасці, прагматызму, якім кіруюцца многія. Драматызм абвастраецца тым фактам, што сыны Ульяны Паўлаўны — прыёмныя. Фармальна ад сур'ёзных памылак Тамаша выратоўвае брат Радзіён, які адкрывае яму вочы. Да гэтага ў Тамаша да жыцця і блізкіх былі ў асноўным прэтэнзіі, ён памятаў пра свае правы, а цяпер яму нагадалі пра абавязкі. Аднак фактычна, як слушна заўважае С. Лаўшук, сям'я, грамадства і гэты свет трымаецца на такіх людзях, як Ульяна Паўлаўна. І. Шамякін сродкамі літаратуры паказаў, як жыццё парадніла народных па крыві людзей і на чым менавіта грунтуецца чалавечнасць. Мараль п'есы тым самым заўочна супрацьпастаўляецца ідэі драмы А. Камю "Непаразуменне", у якой даказваецца, што сваяцтва не ўратоўвае ад пантрагічнай экзістэнцыяльнай самоты і людскога непаразумення (у творы А. Камю маці і дачка, не пазнаўшы сына / брата, з карыслівай мэтай забіваюць яго). Доля рацыі, безумоўна, прысутнічае ў французскага пісьменніка, аднак у сутнасці гуманізму закладзеныя інтэнцыі да "сусветнай любові" (дарэчы, выраз таго ж А. Камю), іншая справа, што яны носяць ідэальны характар і на практыцы, як ілюструе п'еса І. Шамякіна, не ажыццяўляюцца з такой лёгкасцю, як хацелася б.

Звярнуўся пісьменнік і да формы "малой" драматургіі, якая тым часам губляла папулярнасць. Камедыя І. Шамякіна "Баталія на лузе" (1972) крытыкуе выхаванне, якое атрымаў у сям'і Юрка. Маці вучыць яго быць дысцыплінаваным, прышчапляе прагматызм у сяброўстве і каханні, адвучваючы ад шчырасці, хоча, каб яму жылося лягчэй, часта за кошт іншых. Пісьменнік на канкрэтным, абгрунтаваным прыкладзе паказвае, да чаго прыводзіць такая "палітыка": Юрка і маці застаюцца адны — такія "сябры" нікому не патрэбныя. Аўтар не прымушае іншых персанажаў п'есы смяяцца і кпіць з прыстасаванцаў — апошнія з-за сваіх псіхалагічных установак і поглядаў на паводзіны ў соцыуме самі сябе заганяюць у камічнае становішча.

Нягледзячы на прыналежнасць да жанру камедыі, "Залаты медаль" (1979) жыццёвыя пытанні вырашае ў дастаткова драматычным ключы. Маладых герояў п'есы чакае выпрабаванне, жыццёвы экзамен "на сталасць, на чалавечую годнасць" (словы Ігара Паўлавіча, настаўніка літаратуры). Школьнікі-выпускнікі аказваюцца перад неабходнасцю маральнага выбару. Шакіраваныя несправядлівымі ўчынкамі дырэктара школы Шумілы, яны са шчырасцю юнацкага максімалізму выказалі пратэст, які хоць і застаўся безвыніковым, але выявіў тэндэнцыі развіцця характараў, высокамаральнасць вучняў.

Паказальна, што гэты твор вучыць бачыць не знешнюю прыгажосць людзей, а перш за ўсё ўнутранае хараство. Найбольш яркім прыкладам выступае Жэня, якая ніколі не жыла для сябе, а заўсёды дбала пра іншых. Яраславу спатрэбілася пяць гадоў, каб зразумець, што шчасце хадзіла побач, што шчасце — не кан'юнктуршчыца Саша, а ціхая добрая Жэня, якая, нягледзячы на свой драматычны лёс, не зрабілася чэрствай. У дадзенай п'есе бачыцца наследаванне спецыфікі чэхаўскага характарастварэння, калі "драматург не вынаходзіць той ці іншы характар, навязваючы яму пэўны лад думак і рэгламентаў паводзін. Ён бярэ персанажаў проста з жыцця і выяўляе іх не ў нейкія ўнікальна-гераічныя, лёсавызначальныя моманты, а, бадай, у самыя празаічныя — шэрыя, будзённыя моманты, на арэне паўсядзённасці, якая якраз і з'яўляецца магутнейшым фактарам фарміравання тых ці іншых рысаў характару".

Неабходна адзначыць у названых п'есах пашырэнне творчага асэнсавання чалавечай псіхалогіі за кошт яе мастацкага адлюстравання на прыкладзе пэўных герояў. Унутраныя канфлікты, у прынцыпе, не характэрныя для дзіцячай драматургіі. Іх часам глыбокая латэнтнасць занадта складаная для ўспрымання. Таму характарастварэнне з прымяненнем унутранага канфлікту, такое папулярнае ў п'есах увогуле, не заўсёды знаходзіць увасабленне ў драматургіі для дзяцей, якая — у адрозненне ад прозы — не мае магчымасці з дапамогай такіх мастацкіх сродкаў, як разгорнутыя словы аўтара ці ўнутраныя маналогі, данесці ўсе тонкасці да чытача. Аднак І. Шамякін у п'есах, разлічаных на падлеткава-юнацкую аўдыторыю, не баяўся асвойваць гэтую тэрыторыю, падыходзячы з характэрнай для яго далікатнасцю да псіхалагізацыі характару, часта з прымяненнем мастацкай тэхнікі менавіта ўнутранага канфлікту.

Стварыўшы не так ужо і шмат п'ес для падрастаючага пакалення, тым не менш І. Шамякін і ў іх адзначыўся як пісьменнік-гуманіст хрысціянскага ўзроўню. Пры ўсім памкненні да высокамастацкага ўвасаблення творчай задумы, І. Шамякін перш за ўсё вучыць гэтаму гуманізму, эмпатыі, паказвае, што ўсе мы — "дзеці аднаго дома".

# Захаваць чалавечнасць

**Уладзімір Саламаха — празаік, крытык, публіцыст, эсэіст, яго пяру належаць кнігі прозы "На ўзмежку радасці", "Заўтра ў дарогу", "Цяпло чужога сэрца", "Прывід у скураным крэсле", "Напрадвесні", "Сусвет дабрыні", "Званыя і выбраныя" і іншыя. Па яго сцэнарыях зняты шэраг дакументальных і мультыплікацыйных фільмаў.**

Апошнім часам вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Саламаха радуе сваіх чытачоў надзвычай багатым творчым плёнам. Так, у серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі" ў выдавецтве "Харвест" выйшла яго кніга "Утешь меня кривдой..." (2010), а ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" ў серыі "Лімаўскі фальварак" — "Лица и Лик" (2011). Усе творы апублікаваныя ў перакладзе з беларускай мовы.

У першы зборнік увайшлі аповесці "Разверзнись, земля", "Опознается личность мужчины", "Утешь меня кривдой..." і сем апавяданняў. У вострасюжэтных сацыяльна-псіхалагічных творах Уладзіміра Саламахі сутыкаюцца два прынцыпы адносін да жыцця: чалавечнасць і ваяўнічая бездухоўнасць. Аўтар прасочвае, як няпроста ў гэтым сутыкненні захаваць тыя лепшыя якасці, якія дазваляюць заставацца сапраўдным чалавекам.

Героі аповесцей, уключаных у другую кнігу, прадстаўляюць некалькі пакаленняў. Яны жывуць і дзейнічаюць у розныя перыяды нашай гісторыі. Так, у аповесці "...И нет пути чужого" паказаны людзі ваеннага пакалення. Перажыўшы нягоды, ліхалецце, маючы актыўную жыццёвую пазіцыю, цяпер яны вырашаюць найважнейшае пытанне: як ставіцца да тых, хто ніяк не праявіў сябе ў справе абароны Айчыны? Трэба адзначыць, што Уладзімір Саламаха — чалавек, які нарадзіўся і вырас пасля Вялікай Айчыннай вайны, — таленавіта і пераканаўча паказвае і ваенныя падзеі, і мірнае жыццё сваіх герояў. Шчырасць, праўдзівасць — характэрныя рысы яго твораў.

Героі аповесці "Лица и Лик" — нашы сучаснікі. Шафёр, чыноўнік новай хвалі, былая "прадажная" дзяўчына, ахоўнік сталінскага ГУЛАГа, "новы беларус"... Пісьменнік па-майстэрску перадае трагізм жыцця простых, шчырых і сумленных людзей. У час, калі сацыялізм рухнуў, на паверхню вылезлі розныя нягоднікі, якія ўзяліся ўладкоўваць жыццё на свой капыл. Нават дзяцей зачапіла сацыяльнае расслаенне ў грамадстве.

Майстар дэталі, Уладзімір Саламаха выдатна перадае душэўны стан сваіх герояў у той ці іншай сітуацыі. Усе яго творы аб'ядноўвае дамінуючая думка: толькі трывалы ўнутраны стрыжань дазваляе людзям у любой сітуацыі заставацца людзьмі.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# Паэзія



Міхась Пазнякоў

* * *

*Чым болей жыву, тым да вёскі бліжэй,*
*Тым болей імкнуся на лона прыроды,*
*Тым подых жытоў і лугоў даражэй,*
*Дзе болей святла, і цяпла, і свабоды.*

*Там дом пахіліўся бацькоўскі пусты,*
*І чэзнуць у садзе там яблыні, грушы.*
*На двор напаўзаюць ваўкамі кусты,*
*І плачуць бацькоў набалелыя душы.*

*Дадому часцей і жаданей лячу,*
*Як клін жураўліны з-за мора вясною,*
*Віны прад радзімай пазбыцца хачу*
*І болей ужо не развітвацца з ёю.*

* * *

*Гайдае ў хвалях ціхая рака*
*Гарлачыкаў усмешкі залатыя,*
*Пяшчотаю на крыльцах матылька*
*Трымцяць маленства згадкі дарагія.*

*Душу зноў перапоўніла любоў,*
*А сэрца замірае ад самоты.*
*Не трэба, луг, вярнуўся я дамоў,*
*Спявай і плач ты неспатольна потым.*

*Зноў на арэлях дзіўнага святла*
*Хачу на міг у казачныя сны я,*
*Яшчэ не адпалаў ва мне датла*
*Боль за грахі і горасці зямныя.*

## У мамінай хаце

*Пустая... Калі ж адчыняю,*
*Матулін пагляд адчуваю:*
*Пяшчотліва, сонечна, чула*
*Мяне сустракае матуля.*
*І быццам запахне блінамі*
*І хлебам, як колісь у мамы.*
*Да печы, стала прыпадаю,*
*Нібыта яе абдымаю.*

*То перад сабою, то збоку*
*Яе чую ціхія крокі.*
*Прысяду, дзе мама сядзела.*
*Як хата яе пастарэла!*

*Але, як і мама, чакае,*
*Гасцінна штораз сустракае.*
*І значыць, яна не пустая,*
*Бо ласкай мяне атуляе.*

* * *

*У бацькоўскім веснім,*
*звонкім садзе*
*Пачынае сонца новы дзень.*
*Родны кут, які мне лёсам дадзен,*
*Я не забываю анідзе.*

*Харастом яго не наталіцца,*
*Ні мілотнай, шчырай цеплынёй,*
*У расстанні вабнай казкай сніцца,*
*Як магніт, прыцягвае вясной.*

*Прыязджаеш, зноў памаладзелы,*
*Акунешся ў сонечную ціш,*
*Зноў жыццё – нібыта аркуш белы,*
*Навакол даверліва глядзіш.*
*Сэрца перапоўніцца красою,*
*У душу ўсё вечнае ўбярэш,*
*І не будзеш ведаць супакою,*
*Покуль не схаваеш сум у верш.*

## Спявае жыта

*Спявае жыта…*
*Чуйны вецер струны*
*Перабірае — майстар-адмыслоў.*
*І сонца грай, калосся пошум думны*
*У песні мілай чуецца ізноў.*

*Прыслухайся: у роўным спеве жытным*
*Пранізлівая дзіўная туга…*
*Кранае сэрца голас старажытны,*
*Вякоў мінулых тайная смуга.*

*Спявае жыта… Сэрцам прыхініся*
*І ты адчуеш трапяткой душой*
*Кліч жаўрука ў блакіце звонкіх высяў,*
*І водар хаты матчынай жывой.*

*У песні гэтай стройна-несціханай*
*Гучыць адвечны заклік маладых.*
*Спявае жыта прагай апантанай,*
*Святлом нас напаўняючы заўжды.*

*Спявае жыта… Большай асалоды*
*У родным полі і не можа быць.*
*Не страшныя ніякія нягоды,*
*Пакуль нам песня гэтая гучыць.*



Надзея Парчук

## Дазволь прычасціцца...

*Зямля мая, ты мне — як маці,*
*А я твая — адна з раслін,*
*Адна травінка ў родным садзе*
*Ці мо ў бары — адна з ялін.*

*Тваёй пясчынкай быць у полі —*
*Прыму за шчасце, гонар я.*
*І не расстануся ніколі*
*З табою, родная зямля.*

*Я згодна быць тваёй расінкай —*
*У промнях сонца зіхацець,*
*Альбо — маленькай журавінкай*
*Ці хоць валошынкай сінець.*

*Зямліца, родная сяструца,*
*Будзь мне спагадаю ў жыцці,*
*Дазволь святыняй прычасціцца,*
*Каб светла ў вечнасць адысці...*

* * *

*Калі душа маўчыць,*
*Дык не спрабуйце сілай*
*Яе разгаварыць,*
*Прымайстраваць ёй крылы.*

*Бо гэта ўсё дарма:*
*Яна вас не пачуе,*
*Калі ў сабе сама*
*Тых крылаў не адчуе.*

*Як сонцава святло*
*Не можа быць абрысным,*
*Так штучнае нішто*
*Не назавецца існым.*

* * *

*Вітаю, блакітнае неба,*
*Рубінавы колер зары!*
*Мне большага шчасця не трэба,*
*Каб толькі да вас гаварыць.*

*Каб толькі вітаць мне свет белы,*
*Гаёк малады і бары,*
*Свой край, ад бяды ацалелы,*
*Каб толькі мне з ім гаварыць.*

*Каб толькі мне чуць жаваронка,*
*Што песняй заліўся ўгары,*
*Каб толькі з радзімай старонкай*
*Мне век па душах гаварыць...*

* * *

*Калі па-твойму, дружа мой,*
*Няма для радасці прычын,*
*Тады журботнаю парой*
*Давай з табою памаўчым.*

*І можа, можа ўсё-ткі нам*
*На зломе часу, збегу дзён,*
*Нібы далёкім мудрацам,*
*Жыцця адкрыецца закон.*

*А мо раскрыецца сакрэт,*
*Пашчасціць, можа, у жыцці —*
*Пакінуць людзям добры след,*
*Насеннем добрым узысці.*

* * *

*Сяджу я ціхенька між вамі*
*І моўчкі разважаю:*
*Як лёгка жыць паміж сябрамі,*
*Ў якіх душа жывая;*

*Якія мараў не сурочаць —*
*Заўсёды падтрымаюць,*
*Не скажуць здзекліва ў вочы,*
*Што наша хата — з краю.*

* * *

*Расчыні хутчэй акно, расчыні —*
*Той кранальнай і святой светлыні,*
*Што сыходзіць ад бяроз і нябёс,*
*Каб не сталася ў цябе горкіх слёз.*

*Каб паменела ў душы злой журбы,*
*Пра самоту і тлум ты забыў —*
*Павітайся хутчэй з белым днём,*
*Што расцвёў для цябе за акном...*

## Дэбют



Зміцер Баяровіч

**Зміцер, студэнт 4 курса Інстытута журналістыкі БДУ, лічыць, што жыццё пабудавана на кантрастах, што ў дробязях хаваецца вялікае, у блізкім — далёкае, у прозе — вершы. І сапраўдная творчасць для яго існуе толькі разам з каханнем.**

## Крокус

*мне снімся мы*
*ўжо штоноч:*
*вакно, расстанне, веткі*
*ў тваіх руках*
*ў тваіх руках —*
*кветкі.*

*наўсцяж дарог,*
*наўкола рэха*
*што мы адзін аднаму*
*знаёмыя,*
*знаёмыя,*
*знаёмыя.*

*і ты маўчыш*
*пад шум машын*
*грамчэй за ўсе машыны*
*трымаеш*
*у руках*
*шыпшыны.*
*мне не чакаць,*
*мне не чапаць*
*цябе. І зараз*
*у памяці маёй*
*твой зарастае адрас.*

*пастой вось так,*
*ў пустой мяжы,*
*— шапчу скрозь сон —*
*а потым —*
*бяжы,*
*бяжы*
*употай.*

*і чую я,*
*і чую як*
*твой рух, аўтобус.*
*апошні крок,*
*апошні крок —*
*крокус.*

* * *

*здавалася,*
*мы пахлі дымам*
*пажару, цяжару,*
*дакораў,*
*кпін*
*і нашыя не адчувалі*
*спіны —*
*спін*

*здавалася,*
*што нас ніколі*
*і не было на гэтае мяжы.*
*я таксама —*
*толькі пустач,*
*колы*
*і віжы.*

*здавалася*
*мне папяльшчам*
*твая знядоленая далонь —*
*здаваўся я*
*ў яе*
*расхрыстаны*
*палон*

*здавалася,*
*што ты так блізка,*
*што чутны*
*твой самотны смех,*
*і на зямлі*
*збялелы,*
*слізкі —*
*снег.*

*і ў баях,*
*дзе я быў тылам*
*кахання, што нагадвала вайну, —*
*здавалася,*
*мы пахлі*
*дымам*
*без агню.*

* * *

*Жаданне злоснае…*
*Ёсць яно, есць яно*
*мяне; ўва мне сядзіць*
*усё ў мане*
*ужо дарослага,*
*разлічваючы на маю сціпласць.*

*Жаданне простае:*
*вось так, у нядзелю:*
*узяць і затрымаць час,*
*і людзей,*
*каб не надыходзіла заўтра,*
*а было толькі "Yesterday".*

*Бы ў дзяцінстве*
*Мы грэнкі ямо,*
*з гарбатай.*
*Яно*
*— жаданне.*
*дурное,*
*лупатае*
*са мной за сталом*
*Грэнкі есць.*

*А за шклом:*
*кроплі,*
*кроплі,*
*кроплі.*
*Бы дзяцінства*
*Караблі —*
*Караблі —*
*караблі.*

*І гогат хлопцаў звонкі,*
*І звонку плач дзевак.*
*Усё, усё — добра:*
*заўтра — панядзелак.*



Фота Дзмітрыя Гучанкі

# Музычная сцэна: лепшае

**Мудрае жыццё распарадзілася так, што новы праект Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра "Наталля Гайда запрашае" завяршыўся адкрытым фіналам. Як гэта разумець? А вось як: апафеоз адбыўся, але заключны гала-канцэрт удзельнікаў незабыўнага тыдня мастацтва не стаўся "апошняй кропкай" у працэсе іх унікальнай супольнай творчасці. Працяг будзе!**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Наш час багаты на гучныя міжнародныя фестывалі, якія часцей нагадваюць камерцыйныя гастрольныя туры: збіраюць "зорную абойму" выканаўцаў, суправаджаюцца шыкоўнай рэкламай, ажыятажам вакол білетаў, недаступных для сціплага кашалька сярэднестатыстычнага бюджэтніка, студэнта, пенсіянера. Праект "Наталля Гайда запрашае", не займеўшы хаця б сімвалічнай падтрымкі спонсараў, раскручваўся без старонняй дапамогі: за кошт энергіі таленавітых і талковых людзей, якія працуюць у тэатры, дзякуючы ўнутранаму творчаму гарэнню, якое падтрымлівае ў калектыве яго кіраўніцтва. На запросіны легендарнай зоркі беларускай і савецкай аперэты адгукнуліся не гастралёры, а шчырыя сябры: артысты-вакалісты, кіраўнікі творчых калектываў, дырыжоры. Госці прыехалі з Азербайджана, Казахстана, Расійскай Федэрацыі (Екацерынбург, Іркуцк, Растоў, Санкт-Пецярбург). Яны не пачувалі сябе "вясельнымі генераламі", запрошанымі на адзін вечар. Яны былі сапраўднымі чыннікамі фестывальнага жыцця, распісанага па гадзінах: рэпетыцыі, творчыя візіты, экскурсіі, гутаркі. За ўсім гэтым — новыя эмоцыі, новыя веды і штодзённы абмен прафесійным досведам, якога ніколі не бывае зашмат. Поруч з беларускімі калегамі госці ўдзельнічалі ў разнажанравых і рознастылёвых пастаноўках нашага тэатра ("Бабскі бунт" Я. Пцічкіна, "Аршын мал алан" У. Гаджыбекава, "Сільва" І. Кальмана, "Граф Люксембург" Ф. Легара). Колькі новых сцэнічных ансамбляў нарадзілася за мінулы тыдзень у гэтых спектаклях!

А яшчэ больш інтэрнацыянальных дуэтаў утварылася падчас працы над праграмай гала-канцэрта, і ў той незабыўны суботні вечар перад шчырай мінскай публікай выступіла вялікая міжнародная сябрына, ці, як зaўважылі самі артысты, — новая тэатральная сям'я. У калейдаскопе гэтых сямейна-тэатральных стасункаў апынулася ўсё, чым жыве музычная сцэна: класіка жанру аперэты, камічная опера, балет, мюзікл, песня. Усё прымалася на "ўра", у хвалі шчодрых воплескаў выкупаліся і легендарныя майстры, і прадстаўнікі новай тэатральнай генерацыі. Працяглая, але дынамічная імпрэза ўспрымалася не як нізка паасобных канцэртных нумароў, а як цэласная дзея — дзеля гэтага шчыравалі рэжысёр Настасся Грыненка, харэограф Дзмітрый Якубовіч, мастакі Аляксей Тарасаў (Расія) і Любоў Сідзельнікава, вядучыя Ірына Рымша ды Аляксандр Асіпец, знітоўваючы сцэнічныя сюрпрызы ў захапляльнае шоу. За дырыжорскім пультам змянялі адно аднаго піцерскі маэстра Андрэй Аляксееў і яго мінскія калегі Юрый Галяс, Алег Лясун, Мікалай Макарэвіч, Марына Траццякова.

Наталля Гайда цягам вечара не раз выходзіла на сцэну, у выбітных сола і ў дуэтах пацвярджаючы высокі клас акцёрскага майстэрства і віртуознае валоданне голасам. Спеўная птушка з Азербайджана Інара Бабаева лашчыла слых меламанаў арыяй Адэты ("Баядэра"), а яе зямляк Фарыд Аліеў і наша Маргарыта Александровіч дэбютавалі як дзівосны дуэт Раджамі ды Адэты. Здзівіў выхад шаноўнага дырэктара Карагандзінскага акадэмічнага тэатра музычнай камедыі Амантая Ібраева з каваціναй Фігара ("Севільскі цырульнік"). А Таццяна Клімава з Растоўскага дзяржаўнага музычнага тэатра сваім віртуозным выкананнем песенькі "чарцяняці"-Пепіты ("Вольны вецер") дала паказальны ўрок тым, хто апраўдвае фанаграму на эстрадзе: аказваецца, можна скакаць, хадзіць на руках, куляцца цераз галаву і пры гэтым заставацца ў вобразе, трымаць выдатную вакальную форму і не збіваць дыханне! Пацвердзілі свой новы статус куміраў мінскай публікі Андрэй Данілаў і Уладзімір Якаўлеў (Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны тэатр музычнай камедыі), Галіна Пятрова (Свярдлоўскі дзяржаўны акадэмічны тэатр музычнай камедыі), Аляксандра Гарашчук (артыстка Іркуцкага дзяржаўнага музычнага тэатра імя М. М. Загурскага).

Праз хіты сусветных мюзіклаў раскрыўся вакальны патэнцыял Алега Прохарава, Віктара Цыркуновіча, Лесі Лют, Ілоны Казакевіч, Сяргея Суцько. А "гарачы" каскадны дуэт Вікторыі Жбанковай-Стрыганковай ды Аляксандра Асіпца ў класічным "Шымі" адцянілі галавакружна пластычныя нумары з удзелам Дзяніса Нямцова, Дзяніса Мальцэвіча, Анзора Алімірзоева, Дзмітрыя Якубовіча. Што ўжо казаць пра бліскуча зробленую сцэну Элачкі, яе мужа — інжынера Шчукіна ды Астапа з балета "12 крэслаў" у выкананні Вольгі Лядскай, Дзмітрыя Мацiеўскага ды Яўгена Яцкевіча!



*На сцэне — народная артыстка Беларусі Наталля Гайда.*

Нават бясконцы пералік мае свае межы. І той, каго ўжо не выпадае назваць, няхай не крыўдуе: падчас канцэрта былі заўважаны кожны. А яшчэ пад шчымлівы спеў Кацярыны Дзецiгровай ("Пожалуйста, не умирай" З. Рамазанавай) тэатралы разам з артыстамі ўспомнілі тых, каго ўжо няма на сцэне і ў зямным жыцці, але чые вобразы засталіся ў неўміручай гісторыі мастацтва. Мы моўчкі ўглядаліся ў праекцыю на вялікім экране, пазнавалі ў чарадзе незабыўных твараў Міхаіла Вадзянога і Глікерыю Багданаву-Часнаковую, Ніну Равінскую і Анатоля Касцецкага... "Любоў мая — аперэта!" Гэтае вакальнае прызнанне Наталлі Гайды, падтрыманае артыстамі хору, арганічна перайшло ў гімн тэатра з мюзікла У. Кандрусевіча "Джулія". Разам з прымадоннай спявалі ўсе ўдзельнікі канцэрта. І сёй-той з гледачоў міжволі далучаў свой голас да гэтага ўрачыстага тугці.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА, фота Кастуся Дробава

Заўтра ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца заключны канцэрт ІІ Міжнароднага фестывалю "Уладзімір Співакоў запрашае". Праграма "Віртуозы Масквы — сёння і заўтра" прадставіць стыпендыятаў Міжнароднага дабрачыннага фонду Співакова піяніста Данілу Харытонава, віяланчэлістку Настассю Кабекіну, а таксама найвіртуознага трубача Сяргея Накаракава (Расія, Францыя), які ў свой час быў адзначаны гэтым фондам. За пультам камернага аркестра "Віртуозы Масквы" — маэстра У. Співакоў. На сённяшні вечар запланаваны дабрачынны канцэрт "Віртуозаў Масквы" ў Пасольстве Расійскай Федэрацыі. Салісты — стыпендыяты Міжнароднага дабрачыннага фонду Співакова, прадстаўнікі краін СНД, у тым ліку Беларусі.

Падчас адной з нядаўніх прэс-канферэнцый у НАВТ оперы і балета Беларусі намеснік яго генеральнага дырэктара Уладзімір Рылатка паведаміў пра новы праект калектыву: Маладзёжны форум опернага мастацтва краін СНД. З 20 па 25 мая наш Вялікі тэатр будзе нагадваць эксперыментальны цэнтр падрыхтоўкі зорак опернага мастацтва. У Мінск прыедуць лепшыя маладыя салісты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў з тэатраў СНД, Балтыі ды Грузіі, дырыжоры. Яны возьмуць удзел



*Намеснік генеральнага дырэктара НАВТ оперы і балета Беларусі Уладзімір Рылатка.*

у шасці оперных спектаклях, што ідуць на мінскай сцэне. Форум ладзіцца пры садзейнічанні Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва, што, як падкрэсліў У. Рылатка, сведчыць пра высокі статус новага інтэрнацыянальнага праекта.

Нарысы вядомага мастацтвазнаўцы Яўгена Шунейкі, напісаныя ім у 1990 — 2000 гады, выдадзеныя нядаўна пад адной вокладкай пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. Зборнік, названы "Праспект Незалежнасці", уключае развагі пра творчасць Фердынанда Рушчыца, Марка Роткі, Хаіма Суціна, роздум пра беларускую архаіку і спробы яе актуалізацыі ў сучасным творчым свеце, даследаванне тэндэнцый у еўрапейскім мастацтве апошніх дзесяцігоддзяў. У кароткім уступе аўтар тлумачыць назву зборніка. Праспект Незалежнасці даследчык успрымае як галоўную магістраль у цэнтры Мінска, паабапал якой канцэнтруюцца ўсе вядучыя мастацкія галерэі ды музеі і на якую выходзіць фасад альма-матар Я. Шунейкі, дзе ён выкладае ўжо больш як 20 гадоў. Шпацыр па гэтым праспекце праcвятляў думкі, дарыў свежыя творчыя ідэі, якія ўрэшце аформіліся ў чараду публікацый.




*Вокладка зборніка.*



*Мастацкі кіраўнік капэлы "Санорус" Аляксей Шут.*

## Вандроўка з капэлай «Санорус»

**Музычная капэла "Санорус" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута адзначае сваё дваццацігоддзе серыяй канцэртаў. Не так даўно ў сталічным Клубе імя Ф. Э. Дзяржынскага вядомы калектыў выступаў з новай праграмай "Ад Мілана да Лейпцыга", якая сталася падарункам для гледачоў.**

Гэта была сапраўдная музычная вандроўка, якая звязала гарады, знакавыя для творчасці класікаў, чыя музыка ўвайшла ў праграму. Выконваліся творы італьянца Джаакіна Расіні, французскага кампазітара Шарля Гуно, а таксама нямецкай музыкі Рыхарда Вагнера, і на заканчэнне прагучала яшчэ аднаго выбітнага італьянскага аўтара — Джузэпе Вердзі.

Класіка ў выкананні капэлы "Санорус" (а гэта, як вядома, змяшаны хор і салісты) кранала сэрца. Можа, таму, што лёгкая і светлая энергетыка зыходзіць ад саміх музыкантаў.

Вераніка ПУСТАВІТ

# Песня нас звязала

**Пяты міжнародны конкурс дуэтаў "Песні, якія нас яднаюць" прайшоў у Палацы культуры Мінскага трактарнага завода. Удзельнічалі прадстаўнікі Казахстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі. Выступленні выканаўцаў ацэньвалі выдатныя дзеячы музычнай культуры. Асноўнай задачай прафесійнага журы было не толькі ацаніць вакальныя дадзеныя ўдзельнікаў і ўменне трымацца на сцэне (сцэнічны вобраз у цэлым), але і здатнасць выявіць тую ці іншую адметнасць, рысу, характэрную для таго народа, які прадстаўлялі канкурсанты.**

Кацярына БЯДУЛІНА

Калі людзі памятаюць і ахвотна выконваюць песні савецкіх гадоў, гэта не значыць, што ў іх настальгія па мінулым. Сёння гэтыя песні — не проста ўдалы плён сумеснай працы кампазітараў і паэтаў. Яны — своеасаблівы сродак камунікацыі паміж жыхарамі рэспублік былога Савецкага Саюза, якія цяпер маюць статус незалежных дзяржаў. І калі ў адной зале збіраюцца прадстаўнікі розных краін і спяваюць старыя хіты, дык адразу адчуваюцца асаблівыя цеплыня і шчырасць — нібы сямейная атмасфера…

Песні гучалі самыя розныя, настройваючы слухачоў на роздум пра вечныя пытанні, на падарожжа па свеце, на знаёмства з іншымі краінамі і сустрэчу са шчырай праявай пачуццяў.

Такім чынам, мінскі дуэт Вольга Ручаюся і Віталь Грыгар'ян быў адзначаны за яркі сцэнічны вобраз. Кацярына Ліцкевіч і Таццяна Дзівіна з Барысава атрымалі дыплом за тэмпераментнае выкананне. Даніяр Бакыт і Аліхан Бахіянаў павезлі ў Казахстан дыплом з фармулёўкай "За волю да перамогі".

Гонар Малдовы на гэтым конкурсе абараняла оперная спявачка Маргарыта Будзей. Як слушна заўважылі падчас абмеркавання выступленняў члены журы, параўноўваць яе сольнае прафесійнае выкананне з выступленнямі дуэтаў, удзельнікі якіх не маюць спецыяльнай музычнай адукацыі, было б не зусім карэктна. Але не адзначыць спевы гэтай канкурсанткі было б няправільна. Малдаўскую салістку ганаравалі дыпломам "За высокае выканальніцкае майстэрства і служэнне мастацтву". Дыплом "За маладосць і абаяльнасць" уручылі дуэту "Бурштынавы шлях" з Вільнюса. Дыпломамі журы былі ганараваныя дуэты і ў некаторых іншых намінацыях.

Што да традыцыйных узнагарод, дык трэцяе месца падзялілі паміж сабой Дзяніс Дзмітрыеў ды Алена Максіна (дуэт "Каліта" з Санкт-Пецярбурга) і Аліна Зяленская ды Цімур Лаврко з Кіева. На другое месца выйшлі нашы Аліна Казак ды Вадзім Дудаладаў (тэатр песні "Каларыт") і Сяргей Юрчанка ды Станіслаў Панькін з Луганска. Першымі журы прызнала Багуславу Карчэўскую ды Юрыя Астапчука (Беласток, Польшча). У выкананні гэтага сямейнага дуэта шчыра прагучала беларуская народная песня "Месяц", а рухавая песня на польскай мове "Жонка мая" сталася вельмі арганічнай для гэтага абаяльнага дуэта, які адразу ж спадабаўся публіцы.

Праект "Песні, якія нас яднаюць" яшчэ раз пераканаў, што музыка здатная на многае: яна распальвае ў чалавеку агеньчык надзеі, веры, злучае два стомленыя адзінотай сэрцы і яднае розныя народы. Кожны знаходзіць у песнях блізкае свайму жыццю, сваім пачуццям.

*Фрыдрых Модаль — былы настаўнік рускай мовы і літаратуры, які воляю лёсу з малых гадоў, і вельмі грунтоўна, пазнаёміўся з тэатрам. (Бацька Фрыдрыха Міхайлавіча быў вядомым тэатральным крытыкам, маці — актрысай). Знаёмства гэтае працягваецца ўсё яго доўгае жыццё. Працуючы ў школе, Фрыдрых Міхайлавіч праз урокі літаратуры выхоўваў у сваіх вучнях гледачоў. А калі выйшаў на пенсію, яшчэ на працягу 10 гадоў працаваў у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача кіраўніком псіхолага-педагагічнай службы. Як расказвае Ф. Модаль, падчас працы ў тэатры ён змагаўся за тое, каб у школах Мінска і сталічнага наваколля выхоўваліся прыхільнікі сцэнічнага мастацтва…*

*Вялікае захапленне Тэатрам не пакідае Фрыдрыха Міхайлавіча і ў пачцівым узросце "за восемдзесят". Адмыслова для "ЛіМа" напісаў ён гэтыя незвычайныя нататкі, якія складаюцца з некалькіх раздзелаў. Першы з іх мы і прапануем сёння ўвазе чытача.*

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа"**

**Фрыдрых МОДАЛЬ**

# Сучасная казка

## Маналогі, дыялогі і рэплікі пра мастацтва

Вясна прыйшла ў прызначаны для яе час, і я на змярканні расчыніў адпаведную гэтай падзеі частку аконнага шклапакета. Нягледзячы на знадворны бруд, вясновы водар проста лінуў у мой пакой…

— Гэта што такое? — гучна запытаўся я, бо нейкая жыўнасць уляцела ў маё жытло разам з сакавіцкім подыхам. — Ты Карлсан?

— Зусім не, — запярэчыў нахабны і меладычны голас.

— Па шчупаковым загадзе з'явіся перада мной, як ліст перад травой!!!

— Ноў проблем.

Штосьці зарыпала, цвыркнула, бліснула — і насупраць мяне паўстала вельмі нават гожае стварэнне ў сучасным адзенні са спадніцай шмат вышэй за каленькі.

— Ты хто?.. Прабачце, вы хто? Нечаканае і нібыта ненатуральнае. Як у казцы. Дабрыдзень!

— Дабрыдзень! — і прыгажуня прысела ў крэсла.— Казка — хлусня, вядома. Прынамсі, кожны спектакль — казка. "Выдумка маёй галавы"— як казаў паэт.

— Увесь свет — тэатр, — прадэманстраваў я ў адказ сваю глядацкую дасведчанасць.

— Вядомы слоган з "Гамлета". Але тэатр жыцця і тэатр як гульня ў жыццё, як мастацтва, — зусім розныя рэчы. "Цуд мастацтва... нагадвае... евангельскі цуд: пераўтварэнне вады ў віно, і сапраўдная праўда мастацтва заўсёды нясе ў сабе нешта, што пераўтварае, перадольвае звычайнае пачуццё, і той самы страх, і той самы боль, калі яны выклікаюцца мастацтвам, змяшчаюць у сабе нешта больш за тое, што ў іх утрымліваецца". Заўважце, гэта я цытую вашага знакамітага псіхолага.

— Усё ж хто вы?

— Можаце лічыць, што я — Мельпамена: грэчаская муза трагедыі, заступніца тэатра наогул, увасабленне трагічнага сцэнічнага мастацтва. Звярніце ўвагу на тое, што мая ранейшая выява была ў выглядзе жанчыны з павязкай на галаве і ў вянку з лісця вінаграду, у тэатральнай мантыі, з маскай трагедыі у адной руцэ і мячом ці булавой у другой... Звярніце ўвагу на зброю.

— Трэба меркаваць, з вашага выгляду — вы зусім сучасная багіня, бо вянка няма і мяча таксама… Мельпамена без рэквізіту. Яго ў тэатры не хапае?

— Ёсць усё. Але мы ідзём у нагу з часам… Мы за мір без зброі.

— А меч прызначаны для тэатра ці для гледача?

— Для вас усё… за вашы грошы. Вы — глядач сярэднестатыстычны, звычайны, ці з ухілам? Цяпер модна "з ухілам".

Прайшло з паўгадзіны, а мы, захопленыя тэмай, усё не прыпынялі сваёй размовы. Гэта і зразумела, бо не кожны дзень можна даведацца ў самой Музы пра таямніцы мастацтва.

Насамрэч, я быў глядач з ухілам. Так бы мовіць, глядач-даўганосік. Так і хацелася сунуць свой доўгі нос туды, за рампу, за кулісы, у душу мастака. Мой даўні сябра, выдатны рэжысёр, папярэджваў у свой час, што нельга гледачу паказваць адваротны бок медаля, аматару нельга глядзець на тое, што адбываецца ў закуліссі. Тая "кухня" разбурае мастацкі вобраз. Ды справа ў тым, што я заўсёды ведаў: тэатр — не сапраўднае жыццё, а гульня. Я сачыў за сюжэтам і за тым, што там, у партале сцэны, выраблялі добра знаёмы мне акцёр-майстар ці вучань яго.

Больш за ўсё, як малое дзіцё, цікавіла мяне, якім чынам усё гэта мастацтва робіцца і з чаго вырабляецца. У сябра-рэжысёра аднойчы запытаў, для чаго у адным спектаклі большасць дзеяння трымалі на сцэне зусім неапранутую жанчыну, калі асаблівай патрэбы ў тым не было. Адказ пачуў такі: "Калі рэжысёру няма чаго сказаць, ён распранае бабу".

— Прабачце, пан даўганосік, у вас нейкі не зусім звыклы падыход да мастацтва…

— А што?! — азбурыўся я. — Вы калі-небудзь бачылі двух аднолькавых гледачоў? Вось-вось. Усе яны розныя, і ў тэатр ідуць ці не ідуць з-за розных прычын. І ўспрымаюць убачанае па-рознаму… А ці па-рознаму насамрэч? Чалавек у натоўпе, наколькі вядома, ператвараецца пэўным чынам у іншую істоту.

— Менавіта ж так… Ператвараецца.

Пані Мельпамена распавяла мне шмат цікавага пра само мастацтва і яго рабоў і рабынь. Чаму рабоў і рабынь? Самі зразумееце ў свой час. Рабы ў тым сэнсе, што яны вельмі часта бываюць прыкутыя да гэтай зусім не лёгкай прафесіі і іншай справай займацца не могуць. І вельмі залежаць ад… Не пералічыць нават гэты легіён.

— Безумоўна, — дадала прыгажуня, — абліччы кіраўнікоў тэатра адбіваюцца на гэтым незвычайным мастацтве. Канкрэтны калектыў пад уплывам кіруючай асобы ці ўзнімаецца над будзённасцю і стварае цуд мастацтва, ці… рухаецца ў іншы бок.

— Хацеў бы даведацца, што мне павінен даць тэатр. Я заплаціў грошы і маю намер за іх атрымаць… Ну, нешта атрымаць…

— Набыць нейкія рэчы? Тады кіруйце на кірмаш. Тэатр нічога не прадае. Але тут атрымліваеш магчымасць нешта вырабіць сам. Бавіць вольны час, атрымаць асалоду… Людзі, колькі ведаю іх з часоў старадаўняга Рыма, патрабавалі хлеба і відовішчаў. Хлеба тут не атрымаеш. Відовішча? Магчыма. Хочаш праўду? Насамрэч ты прыйшоў у мой храм, каб працаваць.

— Ну, гэта ўжо занадта… Хачу адпачыць у крэсле.

— Калі ласка. Але мастацтва вымагае саўдзелу, сутворчасці. Пэўных намаганняў. Дарэчы, псіхолаг Алахвердаў лічыў: "Вядома, мастацтва спрыяе пазнанню. Але няўжо як феномен чалавечай культуры мастацтва існуе менавіта дзеля набыцця ведаў яго спажыўцамі?.. Мастацтва, варта прызнацца,— нейкая ўжо зусім малапрыдатная прылада для пазнання, бо творы мастацтва заўсёды скажаюць рэальнасць. Мастацтва — не лепшы спосаб спасціжэння рэальнага свету, бо разнастайныя глупствы пранізваюць мастацкія творы. Больш за тое, менавіта гэтыя неверагодныя недарэчнасці шмат у чым і даюць мастацкі эфект". Вось так, каханенькі-роднenькі!

Я слухаў, імкнучыся гэта зразумець.

— Значыць, мяне, гледача, трэба вучыць, як спажываць тэатральнае мастацтва? Грошы аддаў — яшчэ і вучыся?

— Ты не толькі даўганосік, але і нэнза. Мастацтва вымагае адказу, патрабуе пэўных дзеянняў і учынкаў... У прыватнасці, падштурхоўвае да перагляду самога сябе. Хопіць. Бывай!

І Муза знікла.

Чакаў, чакаў яе і пачаў нават нешта такое фармуляваць для сябе. Але атрымлівалася не вельмі зразумела. І раптам быццам пачуў тэлепатычнае паведамленне пані Музы:

— Чым даўжэй твой мозг знаходзіцца ў шэрасці, тым цяжэй яму пасля выкараскацца з гэтага стану. Высокі мастацкі ўзровень спектакля і творчага калектыву не гарантуе адэкватнага гледача. Да ўспрымання мастацтва трэба прызвычаіцца, і навучыцца гэтаму лепей з дзяцінства. Найважным з'яўляецца не тое, каб сачыць за сюжэтам, што само па сабе цікава, а самапазнанне і пазнанне чалавека наогул, што павінна адбывацца не спецыяльна, не надакучліва, нават неўзаметку для самога гледача. Тэатр перад тваімі вачамі стварае жывую карціну, жывую імгненную энергію, якую ты ўспрымаеш нават падсвядома. Але і ты павінен умець убачыць хоць бы крыху больш за тэатр.

Мастацтвазнаўцы дружна прызнаюць, што сёння найболей спажываная публікай прадукцыя — эстрадны жанр, які і аблашчаны шоу-бізнесам, і адпавядае імклівасці жыцця грамадства, і задавальняе патрэбу "адцягнуцца". Тэатр змушаны ўлічваць густы і настрой публікі, а таму актыўна выкарыстоўвае гэты самы эстрадны элемент. Такім чынам, рэжысура, уключаючы ў тканку спектакля сучасныя музычныя рытмы, песні, танцы і эксцэнтрыку, спрабуе заваладаць увагай тэатральнага гледача. І гэта нармальна. Класіка, маючы найвелізарныя мастацкі і маральны патэнцыял, з-за велізарнай аддаленасці ў часе усё ж не супадае з рытмамі нашага часу. Адсюль і карэкціроўка менавіта рытмаў, што пры пэўных умовах можа змяніць і мастацка-маральныя акцэнты.… Самы істотны бок мастацтва ў тым, што і працэсы яго стварэння, і працэсы карыстання ім робіцца быццам бы незразумелымі, невытлумачальнымі і ўтоенымі ад свядомасці тых, каму даводзіцца мець з імі справу.

# Угледзецца ў вобраз

**Жывапіс Міколы Апіёка, прасякнуты пазітыўным светапоглядам і любоўю да чалавека, адлюстроўвае і час, і неадназначнасць нашага жыцця, і дапытлівасць неабыякавай творчай асобы, і душэўную гармонію мастака.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава і аўтара**

Усе значныя рэспубліканскія выстаўкі абавязкова ўключаюць яго работы. І наведваючыся на вялікія калектыўныя вернісажы, гледачы заўсёды прыпыняюць крок, углядаючыся ў партрэты, маштабныя шматфігурныя сюжэтна-тэматычныя кампазіцыі, станковыя нацюрморты, пейзажы, створаныя Міколам Апіёкам. Яго работы прываблівае ужо тым, што рэалістычная манера пісьма не абмяжоўвае дасціпных імпрэсіяністычных пошукаў мастака, зарыентаванага на досвед яго выбітных папярэднікаў — сусветна прызнаных каларыстаў.

Жывапісны свет мастака, чыё дзяцінства азмрочылі гады вайны (нарадзіўся ў 1937-м), а значны перыяд жыцця быў звязаны з прафесіяй сцэнографа, спалучае вайну і тэатр, выявы знаных палітычных і грамадскіх дзеячаў ды блізкіх сяброў, вобразы роднага краю і роздум пра будучыню сваёй краіны. Сярод манументальных палотнаў з выявамі псіхалагічна пранікнёных твараў і пластычна выразных постацей вылучаюцца жывапісныя абліччы асоб, знакавых для беларускай гісторыі, нашай культуры. Ён увасобіў вобразы Адама Міцкевіча і Марылі Верашчакі; Дуніна-Марцінкевіча, Купалы ды Коласа; Максіма Багдановіча, Жэні Янішчыц. Ён маляваў легендарную Стэфанію Станюту, вядучых акцёраў-купалаўцаў і сябра тэатра — драматурга Аляксея Дударава. Стварыў пранізліва ўражлівыя партрэты кампазітара Яўгена Глебава, песняра-музыканта Уладзіміра Мулявіна, адлюстраваў незабыўную Лілію Давідовіч у ролі Боны Сфорцы...



Сюжэт з жыцця вёскі. (Кардон, алей, 1975).

Не так даўно работы Міколы Апанасавіча экспанаваліся ў рэспубліканскіх праектах сталічнага Палаца мастацтва "Я не самотны..." (да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча) і "Суб'ектыўны рэалізм". А днямі, напярэдадні Радаўніцы, у "Галерэі Мастацтва" Беларускага саюза мастакоў разгарнулася персанальная выстаўка М. Апіёка, якая раскрыла для многіх нечаканую грань яго творчасці. Тут прадстаўлены натурныя эцюды 1970 — 1990 гадоў, звязаныя з вясковым жыццём, а эмацыйна спакроўленыя з настальгічнымі ўспамінамі мастака пра дзяцінства. Выстаўка "Помню рукі твае, мама" прымеркаваная да 110-годдзя з дня нараджэння маці Міколы Апанасавіча. І ў сваёй сутнасці гэты кранальны вернісаж, паводле слоў мастака, уяўляе сабой прысвячэнне памяці тысячаў тых жанчын, якія і ў незабыўныя гады ліхалецця, і пасля вайны не страцілі духоўнасць, захавалі маральнасць, зберагалі чысціню душы беларускага народа.



*"«І думкі імкнуцца... ». Максім Багдановіч на выстаўцы слуцкіх паясоў у Вільні" (ДВП, алей, 2001).*

# Класіка вяртаецца

Вераніка ЯРМАЛІНСКА,
фота www.beltuz.by

**Рэпертуар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача папоўнілі дзве адметныя пастаноўкі: “Пан Міністар” Ф. Аляхновіча і “Майго юнацтва крылы” паводле паэмы А. Куляшова “Хамуціус”. Рэжысёр абодвух спектакляў У. Савіцкі, сцэнограф В. Цімафееў. Такім чынам у тэатры аднаўляецца цікавасць да класічнай нацыянальнай драматургіі, знаёмства з якой неабходнае як даросламу гледачу, так і падлеткам, якія ўсё больш цікавяцца нашай літаратурнай спадчынай. Яна з’яўляецца ў ТЮГу побач з чароўнымі, добрымі казкамі — і ў гэтым бачыцца вельмі мудрая і грунтоўная пазіцыя мастацкага кіраўніцтва калектыву.**

Сама назва “Пан Міністар” Ф. Аляхновіча на афішы тэатра шчыра зацікавіла і прывабіла публіку. Спектакль пастаўлены Уладзімірам Савіцкім, добра вядомым сваімі яркімі работамі (“Ветрагоны” У. Галубка — НАДТ імя Якуба Коласа; “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Сны аб Беларусі” паводле “Калыскі чатырох чараўніц” У. Караткевіча і “Балада пра каханне” паводле “Альпійскай балады” В. Быкава — Купалаўскі тэатр; “Раскіданае гняздо” Янкі Купалы — Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы і шэраг іншых).

**“Пан Міністар”** амаль не мае сцэнічнай гісторыі ў беларускім тэатры. Пра яе мы ўспамінаем у сувязі з дзейнасцю Менскага беларускага тэатра, які працаваў на акупіраванай тэрыторыі ў гады мінулай вайны. Так што фактычна гэтая п’еса Ф. Аляхновіча адкрыта наноў. Як вядома, яе галоўны герой прэтэндуе на пасаду міністра тагачаснай беларускай канцылярыі. Чалавек амаль нікчэмны і недалёкі, ён нават не заўважае ўласныя хібы. Аўтар п’есы робіць аб’ектам высмейвання вобраз чалавека, які пішчом лезе на высокія пасады пры новых уладах. Сённяшні тэатр падкрэслівае, што героі камедыі Ф. Аляхновіча вельмі пазнавальныя і ў нашы дні. Пастаноўшчыкі па-майстэрску разыгрываюць сюжэт гэтага твора ў жанры фарса. Сучасна і кідка афармляе сцэнічную прастору мастак В. Цімафееў. Кантрасныя чырвона-чорна-белыя фарбы — асноўныя і ў агульнай дэкарацыі, і ў касцюмах герояў. Мастак працягвае сцэнічную прастору, ствараючы праход, які нагадвае высокую галерэю-балкон. Гэта дапамагае зрабіць мізансцэны больш аб’ёмнымі і выняходлівымі, бо дзеянне можа разгортвацца як на асноўнай пляцоўцы, так і ў вышыні. Па ўсім задніку намалявана туша свінні, раздзеленая на часткі, падрыхтаваныя для продажу. У спектаклі ТЮГа гандаль свінінай і ёсць асноўны занятак Пупкіна. Ён ганарыцца сваёю справай і ўпэўнены ў дасягненні вызначаных мэт. Побач з іранічным малюнкам, прапанаваным сцэнографам, на высокай штанкеце падвешваюцца мяхі, напакаваныя багаццем, — як дэманстрацыя дабрабыту галоўнага героя і як адзіная магчымасць платы “добрым” людзям за дапамогу ў дасягненні яго даўняй мары: стаць Міністрам. У апошніх карцінах спектакля мяхі апускаюцца на сцэну і з іх выпадаюць залацістыя бляшанкі з тушонкай, запаўняючы ўсю пляцоўку. Менавіта гэтыя бляшанкі робяцца сімвалам і тагачаснага, і сённяшняга жыцця многіх пупкіных.



*Сцэна са спектакля “Пан Міністар”.*

Філімона Пупкіна ў спектаклі бліскуча ўвасабляе акцёр А. Палазкоў. Ён надзяляе свайго героя адмоўнай абаяльнасцю вытанчанага махляра і страшэнна закаханага брутальнага спакусніка. У акцёра цудоўная дыкцыя і пластыка. І ўвесь спектакль трымаецца на яго моцнай харызме. Энергія і ўпартасць гэтага персанажа здаюцца невычэрпнымі. З кожнай мізансцэнай ён робіцца ўсё больш і больш прагным у дасягненні сваіх мэт. Захапляльная ігра акцёра заварожвае, гіпнатызуе гледача. Пупкін становіцца надзвычай прыцягальным, знітоўваючы ўвесь таленавіты акцёрскі ансамбль. Не шкадуе яркіх фарбаў для стварэння вобраза Арцімона Кукіша акцёр Л. Улашчанка. Прыцягальныя знешні і ўнутраны малюнкі гэтай ролі. Акцёр надзвычай трапны ў кожнай мізансцэне, у вымаўленні тэксту і, скажам так, — “вядзенні справы” Філімона Пупкіна. Тэмпераментна, нібы на адным дыханні, праціграваюць інтрыгу фарсу акцёры М. Лявончык (Скакун), В. Казлоў (М. Святляк), Н. Гарбаценка (Марта), Ю. Смірнова (Люба) і іншыя.

Спектакль **“Майго юнацтва крылы…”** паводле драматычнай паэмы А. Куляшова “Хамуціус” у пастаноўцы У. Савіцкага захоўвае жанр, вызначаны аўтарам першакрыніцы. Пры гэтым тэатр не імкнецца да стварэння спектакля, у якім дамінантай робіцца паэтычны складнік. Відавочна, што галоўным для пастаноўшчыкаў з’яўляецца вобраз Кастуся Каліноўскага, якому і прысвечаны сам твор. Вельмі важнымі з’яўляюцца і падзеі, звязаныя з гэтай асобай.

Рэжысура спектакля вызначаецца падкрэсленай графічнай дакладнасцю. Адсюль — выразнасць і тэатральная відовішчнасць кожнай мізансцэны. Вялікую ўвагу надаюць стваральнікі спектакля знітаванасці ўсіх складнікаў сцэнічнага твора: музычнага афармлення (П. Захаранка), пластычнага вырашэння (Д. Юрчанка) і сцэнаграфіі (В. Цімафееў). Сцэнаграфія і касцюмы персанажаў, падкрэслена эфектныя, акцэнтуюць значнасць падзей і вобразаў. Героі спектакля, вочы якіх у першай карціне схаваныя за празрыстымі чорнымі павязкамі, не толькі прыгожыя, грацыёзныя пары на ўрачыстым балі, але і ўдзельнікі значных, вялікіх падзей, якія адбываліся ў гісторыі нашай краіны. Сцэнічная прастора наўмысна вызвалена мастаком ад іншых рэчаў. Тут толькі персанажы ды іх пранікнёны дыялог. Заднік, выкананы з эластычных перакладзін, што нагадваюць і турэмныя краты, і звычайную агароджу, за якой з’яўляюцца дзяўчаты і хлапчукі, дапаўняючы тое асяроддзе, у якім жыў і якое бязмежна любіў галоўны герой. Гнуткасць перакладзін — вельмі арыгінальная знаходка мастака. Такім чынам разгортваецца прастора сцэны і вымалёўваюцца, узнікаючы з боку пляцоўкі фантастычна пабудаваныя рэжысёрам карціны з новымі, нечаканымі вобразамі. Вяроўкі, якія звісаюць з-пад каласнікоў, таксама многае сімвалізуюць і адначасова з’яўляюцца канкрэтнымі элементамі афармлення ў той ці іншай мізансцэне: і арэлямі для Марысі ды Кастуся, і нават нейкімі містычнымі загадкавымі істотамі, калі пачынаюць рухацца і звівацца ў дзікім вядзьмарскім танцы.

На маю думку, вытанчана-ўзнёслы спектакль “Майго юнацтва крылы…” можна было б лічыць бездакорным, калі б больш моцным і надзеленым унутранай магутнай энергетыкай — магнетызмам быў бы ў ім вобраз галоўнага героя. Думаецца, што ён не толькі дэкламатар, але і драматычны персанаж. Абаяльны знешне акцёр Г. Гаранскі прадстаўляе нам Каліноўскага надта мяккім, лірычным, не зусім пераканаўчай у яго выкананні атрымліваецца і лінія кахання. Акцёр проста дэкламуе тэкст і не пераконвае ў тым, што менавіта ён абраны лёсам на той учынак, які здзейсніў дзеля будучыні радзімы. Выканаўцу ролі на прэм’ерным паказе ўдалося данесці толькі асобныя маналогі, вельмі ўдала падкрэсленыя і выведзеныя ў інсцэніроўцы. Але ёсць падставы спадзявацца, што яму ўдасца данесці да гледача ўсё, што задумана рэжысурай, у наступных паказах спектакля.

Адзначу запамінальныя, надзеленыя драматызмам работы Ю. Смірновай (Марыся), А. Зелянко (Ксёндз), А. Гладкага (Следчы), В. Сініцы (Цыганка). Спектакль ТЮГа мае вельмі моцную эмацыянальную кропку: ён заканчваецца цудоўным рамансам на верш А. Куляшова “Я пакідаў маленства край…” (музыка А. Еранькова). Гэты раманс аб’ядноўвае і выканаўцаў, і гледачоў і тым самым яшчэ раз падкрэслівае і аўтарскую ідэю, і прадуманую завершанасць сцэнічнага твора.



# Ролі — найлепшыя сябры

Вераніка ПУСТАВІТ

**Івану Мацкевічу зоркі паказалі шлях у акцёры. Пасля 9 класа ён падаў дакументы ў марское вучылішча, але туды не трапіў. Пайшоў у вячэрнюю школу і паралельна працаваў на Баранавіцкім заводзе буддэталяў. Аднойчы паехаў за кампанію з таварышам здаваць іспыты ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. І, да ўсеагульнага здзіўлення, паступіў, у адрозненне ад свайго сябра. Далей — вучоба, творчая праца.**

Сёння І. Мацкевіч — акцёр тэатра і кіно, заслужаны артыст Беларусі.

Яму даставаліся розныя ролі. Напрыклад, у фільме Леаніда Нячаева “Казка пра зорнага хлопчыка” давялося сыграць добрага егера. А на тэатральнай сцэне ўвасобіць вобраз эксцэнтрычнага Пане Каханку.

У сваім першым тэатры — Брэсцкім абласным драматычным — Іван Іванавіч працаваў больш як 10 гадоў. Затым — Мінск, Тэатр-студыя кінаакцёра. І вось ужо на працягу 15 гадоў ён — акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Майстар, які сыграў тут дзясяткі роляў, запатрабаваны ў самых розных спектаклях сённяшняга рэпертуару: “Васа”, “Бег”, “Пігмаліён”, “Леў зімой”… Іван Іванавіч, якога сябры і калегі павіншавалі днямі з 65-годдзем, мяркуе, што акцёр мусіць быць сумленны, шчодры на талент і на эмоцыі, а лепшыя сябры акцёра — яго ролі.

Іван Мацкевіч прызнаецца, што зразумець, у чым сэнс жыцця, яму дапамагла жонка, што найлепшы падарунак, які ён атрымаў у жыцці — унукі, а шчасце яго — у сям’і.

***Фота з архіва Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага.***

# «ОДИНАКОВОРАЗНЫЕ»: знутры і звонку

**Пяць п'ес сучасных драматургаў двойчы прэзентаваліся на сцэне Цэнтра беларускай драматургіі. Гледачоў падзея зацікавіла: пустых месцаў у зале, дзе чыталі свае тэксты ўдзельнікі Студыі альтэрнатыўнай драмы (САД) не было — сядзелі нават на падлозе.**

**Марына ШЫМЧЫК,**
**фота www.cbdrr.org**



*Сцэнічнае чытанне п'есы "Панк памёр".*

Аўтары, якія аб'ядналіся ў САД, мелі для гэтага свае прычыны, галоўная з якіх — незапатрабаванасць іх драматычнай творчасці дзяржаўнымі тэатрамі нашай краіны (сведчаннем гэтаму стаў і той факт, што "прафесійных" гледачоў, якія прыйшлі на чытанні, можна было пералічыць па пальцах). Тым часам п'есы беларускіх драматургаў атрымліваюць прэстыжныя прэміі на буйных фестывалях у Расіі. Так, падчас другіх чытанняў стала вядома, што на "Конкурсе конкурсаў" Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Залатая маска" ў шорт-ліст увайшлі п'есы "Каханне людзей" Дзмітрыя Багаслаўскага і "Злая дзяўчына" Паўла Пражко (у выніку Пражко атрымаў Гран-пры, а Багаслаўскі стаў пераможцам інтэрнэт-галасавання). Дзве з пяці п'ес, якія ў гэтыя дні і чыталі ў Цэнтры беларускай драматургіі!

Жанравая і тэматычная разнастайнасць тэкстаў апраўдвае назву праекта, заклікаючы пазнаёміць гледачоў з сучаснымі тэкстамі, — "ОДИНАКОВОРАЗНЫЕ". Пачалося ўсё драмай, якую можна смела назваць трагедыяй, "Каханне людзей". Дзеянне п'есы адбываецца ў адной з вёсак Расіі, дзе на фоне бесперспектыўнага аднастайнага жыцця пануе алкагалізм. Жонка, не вытрымаўшы здзекаў мужа, забівае яго. Тайну свайго злачынства дзеліць з закаханым мужчынам, што і аб'ядноўвае іх, але ненадоўга. Не здолеўшы існаваць побач з яе галюцынацыямі і дзівацтвамі, ён неўзабаве скончвае жыццё самагубствам. Рэжысёр Марыя Ісаева тонка выявіла энэргетыку п'есы і знайшла адпаведную ёй музычную афарбоўку для чытання — кампазіцыі этнатрыа "Троіца".

П'еса Сяргея Анцэлевіча "Хроніка хроніка" распавядае пра будні маладога хлопца, які ўжо паспеў добра прыкіпець да "вогненнай вады". Больш як палова здарэнняў нам здаюцца малаверагоднымі — з'яўленне ў паўснах героя Моцарта, разумнене катом вершаў Маякоўскага… Іншыя, наадварот, — гіпеpрэальнымі. Нявеста, што вечна шукае свайго мужчыну па сябрах і спрабуе вывесці яго з чарговага запою, якая не выклікае шкадавання, а толькі агіду… Шчаслівы алкаголік, які знаходзіць паўсюль рамантыку — музыку, прыгажосць прыроды, цікавых людзей. Месца дзеяння мяняецца з хуткасцю руху тралейбуса, у якім таксама праходзіць частка жыцця хроніка. Чытанне ў пастаноўцы Дзмітрыя Багаслаўскага праявіла яркія вобразы, створаныя Аляксандрам Целюком і Іванам Трусам.

> **Даведка "ЛіМа"**
> *САД — Студыя альтэрнатыўнай драмы, у якую ўваходзяць пяць маладых беларускіх драматургаў: Павел Пражко, Віктар Красоўскі, Дзмітрый Багаслаўскі, Сяргей Анцэлевіч, Павел Расолька.*

Трэці дзень чытанняў узначаліў драматург Павел Расолька з п'есай "Бывае". Драматург распавёў, як чалавек адчувае сябе ў іншай краіне, не ведаючы мовы (дарэчы, мовы, на якой гавораць персанажы, насамрэч не існуе). Гісторыя, канечне ж, пра каханне, але паводле спосабу дзеяння нагадвае дэтэктыў. На жаль, сюжэтная лінія п'есы добра не распрацавана. Гледачы далі карысную параду драматургу — дабавіць інтрыг і дапісаць другі акт. Але, нягледзячы на недахопы, рэжысёр Сяргей Анцэлевіч стварыў дзе трэба поўны колераў камічны малюнак мізансцэны, дзе трэба — у пастэльных колерах, меладраматычны. Самай загадкавай істотай чытання стала Фара — яркі жаночы вобраз у выкананні Іны Каляды.

Вельмі рэалістычны свет гледачы пабачылі ў п'есе Віктара Красоўскага "Панк памёр". Кожная рэпліка герояў падпадае пад характарыстыкі "так адбываецца насамрэч" ці "гэта было са мной". У цэнтры п'есы — два браты і іх мала чым адметны дзень, калі не лічыць, што машына не заводзіцца. Арцём і Віктар падобныя: маюць агульныя інтарэсы, разумеюць адзін аднаго з паўслова, але старэйшы з іх быццам бы знайшоў сябе, стаў дарослым. Ён разам з бацькам займаецца бізнесам — прадае дыскі. Другі брат хуліганіць, жыве ў дзіцячых марах, не вылучаецца самастойнасцю і дарослансцю. І гэтага нікчэмнага малодшага брата забіваюць у канцы твора — такім чынам панк памірае. Але ў п'есе ён памірае двойчы — спачатку свайго "ўнутранага" ментальнага панка забівае старэйшы брат.

Фінальным штрыхом "ОДИНАКОВОРАЗНЫХ" стала "Злая дзяўчына" Паўла Пражко. На абмеркаванні адна з гледачак зазначыла: "Такое ўражанне, што яго персанажы, як рыбкі ў акварыуме, проста плаваюць, не ведаючы, куды, а аўтар толькі глядзіць на іх і ваду мяняе". На першы погляд здаецца, што сюжэта ў п'есе няма. І персанажаў дакладных няма. І дзеянне слаба развіта. Можа, таму ў рэжысуры Наталлі Леванавай усе героі проста сядзяць за сталом перад гледачамі? Але дзякуючы прыгажосці аўтарскіх рэмарак і таленту драматурга пасля прагляду ўражанні ад кожнага эпізода, як кавалкі пазла, складваюцца разам у цэласны малюнак, надзелены здольнасцю выклікаць "паслясмакаванне" ад паўнавартаснага мастацкага твора.

"ОДИНАКОВОРАЗНЫЕ" двойчы наведалі Цэнтр беларускай драматургіі. Хто не быў — не сумуйце, пачытаць п'есы можна на сайце: http://cbdrr.org/.

# За замкнёнымі дзвярыма

**Алена ШАНДРАК,**
**фота Ганны Івановай**

**За некалькі месяцаў да афіцыйнага адкрыцця IX Міжнароднага фестывалю студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар" гледачы змаглі зазірнуць за "Замкнёныя дзверы". П'есу Паўла Пражко на беларускай сцэне ўвасобіў эстонскі рэжысёр Калеў Куду.**



*Сцэна са спектакля.*

Праект "Koufar-to-Stage", у межах якога і зроблена пастаноўка, скіраваны на стварэнне платформы для культурнага абмену паміж студэнцкімі тэатрамі розных краін. У дадзеным выпадку — паміж тэатрамі Тартускага ўніверсітэта (Эстонія) і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На працягу месяца Калеў Куду працаваў з нашымі студэнтамі. Але ў гэтым канкрэтным выпадку цікавіць не столькі праект, колькі выбар матэрыялу.

Спрэчкі пра тое, ці магчыма паставіць Паўла Пражко на сцэне, не сціхаюць і, здаецца, сціхнуць не хутка. Мінімалістычныя дыялогі, дзіўная, амаль кінематаграфічная дакладнасць у дэталях — вось некаторыя рысы творчасці мінскага драматурга. У нас яго чытаюць, і існуе меркаванне, што толькі сцэнічнае чытанне — адзіная магчымая форма ўвасаблення п'ес Пражко. Але Куду не згодны з такім поглядам, і тым цікавей назіраць за вынікам гэтага эксперыменту.

Першае, на што звяртаеш увагу, — усталяваны на сцэне экран. Які Пражко без рэмарак! Толькі рэжысёр паказаў рэмаркі не з дапамогай тэксту, а з дапамогай відэашэрагу (дарэчы, ідэя з відэазапісам не ўнікальная: піцерскі рэжысёр Дзмітрый Валкастрэлаў, паставіўшы "Замкнутыя дзверы", выкарыстаў у спектаклі гэты ж сродак выразнасці). Акцёры ў сваёй нерухомасці нагадваюць лялек альбо робатаў — да мінімалістычных дыялогаў Пражко рэжысёр дадае мінімалізм рухаў.

Дзеянне п'есы адбываецца ў трох месцах: дом інвалідаў, гандлёвы цэнтр, офіс на ўскраіне. Першая рэмарка — падказка да разумення канфлікту: "Дом інвалідаў. Вечар. У агульным пакоі сядзіць стары і спявае народную песню. У пакоі нікога больш няма. Напэўна, у яго ўжо пачаўся маразм".

Пражко вельмі часта абвінавачваюць у бесканфліктнасці, маўляў, ніякіх глабальных праблем, калі хочаце, нічога паталагічнага. Але тут ён уводзіць у якасці месца дзеяння дом інвалідаў (яно, дарэчы, усяго некалькі разоў мімаходзь згадваецца ў спектаклі), каб паказаць адзіноту — немагчымасць выбару і свядомае да яго імкненне. Праўда, рэжысёр не падкрэсліў, не вылучыў гэтага, таму гледачу, які не чытаў тэкст, можа быць складана зразумець, што да чаго.

Распавядаючы гісторыю Наташы і Валеры (месца дзеяння — гандлёвы цэнтр), рэжысёр ідзе ўслед за драматургам і практычна "адключае" эмоцыі маладых людзей. Аднасінычападробка — рэч для герояў нармальная і натуральная. І тым кантраснай гэта выглядае на фоне, напрыклад, адносін бацькоў, якія "з іншага часу". Валеру ж набыццё абутку хвалюе больш, чым растанне з "каханай".

Зусім іншая сітуацыя ў "Офісе". На сцэне — звычайныя, падобныя да нас людзі. Яны п'юць гарбату, слухаюць музыку, вядуць жартаўлівыя гутаркі, фліртуюць. Звычайны дзень на звычайнай працы. І тут мімаволі задаешся пытаннем: тое, што адбываецца на сцэне, ідэнтычна таму, што адбываецца ў жыцці? Павел Пражко кажа "так". Толькі ён не кажа, што нешта трэба мяняць. Але рэжысёр вырашыў усё ж такі зрабіць стваральны мэсэдж у залу, закончыўшы спектакль песняй Алы Пугачовай "Робот, ты же был человеком".

## <u>За падзеяй</u>

## Моладзь для дзяцей

Ужо другі год Інстытут журналістыкі БДУ праводзіць літаратурны конкурс для студэнтаў "БрамаМар". Пра тое, хто пераможа ў намінацыях "Паэзія", "Проза", "Драматургія", "Крытыка", "Сцэнарый" і "Творы для дзяцей", канкурсанты даведаюцца хутка — на фінальнай імпрэзе. А пакуль што ўсе ахвочыя ўдзельнікі наведалі майстар-класы.

У межах аднаго з іх, наладжанага для фіналістаў у намінацыі "Творы для дзяцей", да брамамараўцаў завіталі пісьменнікі Раіса Баравікова, Алена Масла і Уладзімір Ліпскі. Галоўная мэта майстар-класа — выпрацаваць навыкі крытычнага ўспрымання мастацкіх тэкстаў (у тым ліку і ўласных), таму з кожным фіналістам разбіралі яго конкурсны твор: крытыкавалі і давалі парады.

Госці і члены журы раілі ўдзельнікам больш пісаць па-беларуску. Раіса Баравікова адзначыла, што "ўзрос попыт" на карацелькі. Алена Масла расказала пра перспектывы развіцця дзіцячай літаратуры: простыя, не зацягнутыя, мудрыя, "усмешлівыя" тэксты, якія вучаць дзяцей не наўпрост, а праз героя — гэта тэксты, у якіх ёсць будучыня. Літаратары нагадалі фіналістам пра ўвагу да дзяцей: трэба вучыцца ў іх і прыслухоўвацца да іх. Таксама адзначылі, што аўтар павінен не баяцца перапісваць свае тэксты, давяраць рэдактару, але не забывацца і пра свае аўтарскія правы. І, што не менш важна, — размежчаць па пэўную аўдыторыю.

Намінацыя "Творы для дзяцей" з'явілася сярод конкурсных упершыню і, здаецца, прыйшлася да месца — "БрамаМар" дапамагае знаходзіць новыя імёны, якія могуць стаць будучыняй нашай дзіцячай літаратуры.

**Юлія ВАЎЧОК**

## Студэнцкія песні

Штогадовы конкурс аўтарскай песні і паэзіі "БДАТУ-2012" прайшоў у Беларускім дзяржаўным аграрным тэхнічным універсітэце. Большасць яго ўдзельнікаў — сябры творчага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Першапачаткоўцы". На вечарыне, дарэчы, прысутнічалі заснавальнік аб'яднання Галіна Сёмкіна, член Беларускага саюза журналістаў Галіна Анісімава ды іншыя госці. Студэнты чыталі вершы і спявалі пра каханне, сяброўства, дзяцінства, дробязі жыцця. У пяці намінацыях — "Паэт", "Лепшая аўтарская песня", "Выканаўца", "Адкрыццё года", "Лепшае аўтарскае ўвасабленне" — узнагароды атрымалі самыя яркія і таленавітыя выканаўцы.

**Дар'я ШОЦІК**

## Асветніца з роду Усяслава

На філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ўзнагародзілі пераможцаў конкурсу "Асветніца з роду Усяслава", прысвечанага Еўфрасінні Полацкай. У рамках праграмы прахадзілі выстаўка, творчы семінар і, нарэшце, конкурс творчых прац. У апошнім удзельнічалі студэнты з усіх факультэтаў БДУ.

Дыпломы і падарункі фіналістам уручыў рэктар БДУ Сяргей Абламейка. А 22 красавіка пераможцы выправіліся ў вандроўку ў родны горад асветніцы — Полацк.

**Вераніка ПУСТАВІТ**

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Людміла Жук, навуковы супрацоўнік Свіслацкага гісторыка-краязнаўчага музея, са шкадаваннем распавядае пра страчанае майстэрства:**

— Некалі наш Пушчанскі край славіўся сваімі кірмашамі, якія па размаху ды вядомасці пераўзыходзіў у сучаснай Заходняй Беларусі бадай толькі Зэльвенскі Ганненскі кірмаш. Купцы з усёй Еўропы ахвотна набывалі посуд мясцовай вытворчасці. У гарадскім пасёлку Поразава і па сёння бытуе прымаўка: "Каб не глякі ды гаршкі, паразаўчане пакідалі бы лыжкі". Інакш кажучы, ім не было б чаго есці.

Цэнтрамі ганчарства былі вёска Ганчары і Поразава. А працівалі два цэнтры таму, што метад апрацоўкі гліны мелі розны: у Ганчарах выраблялі звычайны посуд, а ў Поразаве — чорна-лашчоную кераміку, не так пашыраную ў Беларусі.

Для абпальвання гаршкоў рабіліся адмысловыя печы-горны. Звычайна высока на гары — каб не дайсці да грунтовых вод, выкопвалі глыбокую, да двух метраў, яму. Яна шчыльна абкладалася гладкімі, незярністымі камянямі, каб не было асколкаў, якія маглі трапіць у выраб. На камяні выкладваліся ганчарныя вырабы, ямы шчыльна закрываліся, і каля сутак там усё гэта тамілася. Тэмпература ўнутры дасягала тысячы градусаў.

Каб зрабіць гаршкі чорнымі, закладваліся і смаляністыя пароды дрэў, якія давалі копаць і дым. Калі з драўніны пад уздзеяннем высокай тэмпературы выдзялялася смала, яна асядала на гаршках і прыдавала ім асаблівы колер. Дарэчы, гэта была не толькі вонкавая афарбоўка — чарапкі на месцы сколу маюць такі ж колер.

Горны-печы можна ўбачыць у Поразаве і сёння, праўда, занядбанымі. Чаму так? У асноўным чорна-лашчонай керамікай займаўся род Шопікаў, і гэта былі вельмі добрыя майстры. Але, на жаль, апошні, хто валодаў гэтым майстэрствам, — Іосіф Іосіфавіч — памёр прыкладна ў 80-х гадах мінулага стагоддзя і нікому свае веды не перадаў. Таму сёння мы вымушаны з жалем канстатаваць, што адна з адметнасцей і славутасцей нашага раёна страчана, бо не засталося ніводнага чалавека, які валодае сакрэтам вытворчасці чорна-лашчонай керамікі. Праўда, колькі гадоў таму мы спрабавалі аднавіць гэта майстэрства. Зацікавіўся ім Яўген Мацяшук. І, трэба сказаць, у яго атрымлівалася. Але малады спецыяліст надоўга ў нашым невялікім горадзе не затрымаўся. Аднак калі гэта ўдалося аднаму, дык, можа, з'явяцца і новыя ахвотнікі?!

## Прысвечана Дню Перамогі

Марш-акцыя "Дарогамі спаленых вёсак", прысвечаны Дню Перамогі, пройдзе ў маі ў Гомельскай вобласці і ахопіць Петрыкаўскі, Жыткавіцкі, Лельчыцкі і Ельскі раёны. У рамках кожнага этапа ўдзельнікі акцыі наведаюць населеныя пункты, якія былі знішчаны фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Тут адбудуцца мітынгі, сустрэчы з відавочцамі тых жудасных падзей, канцэртныя праграмы. Удзельнікамі гэтага мерапрыемства стануць прадстаўнікі старэйшага пакалення, мясцовыя жыхары, студэнты і школьнікі. Запрошаны таксама дэлегацыі рэгіёнаў расійскага памежжа. Падобны марш-акцыя пройдзе на Гомельшчыне ўпершыню. Яго ініцыятарам выступіла Гомельскае абласное аддзяленне Беларускага фонду міру.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Каштоўнасці Радзімы

**Пастаянная выстаўка ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь "З крыніц адвечнай прыгажосці" запрашае пазнаёміцца з адной з самых унікальных калекцый. У экспазіцыі змешчана каля тысячы прадметаў. Адметнымі з'яўляюцца так званыя пояс Вітаўта і "Мінскі скарб".**

**Дар'я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**

Пояс занесены ў Дзяржаўны рэестр гісторыка-культурных каштоўнасцей вышэйшай катэгорыі, але доўгі час знаходзіўся ў прыватнай калекцыі. Дзякуючы намаганням доктара гістарычных навук Валянціна Рабцэвіча і па рашэнні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь славуты пояс стаў уласнасцю беларускай дзяржавы.



*Шкатулка. XVIII ст. Заходняя Еўропа. Са скарбу, знойдзенага ў 1988 годзе ў Мінску.*

— Дарэчы, гэты шыкоўны гістарычны прадмет быў знойдзены на пачатку 1990-х гадоў каля вёскі Літва Маладзечанскага раёна, — распавяла вядучы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела археалогіі, нумізматыкі, зброі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Алена Прудзнікава. — Выгляд помніка заварожвае: адзінаццаць срэбраных пазалочаных паясных блях, пражка з наканечнікам і дзве прамавугольныя накладкі. Лічыцца, што месца яго вырабу — горад Кафа (цяпер Феадосія). Пражка з наканечнікам створаны ў горадзе Генуя (Італія). Пра гэта сведчыць стылістыка пояса, якая ўключае ў сябе заходнееўрапейскія і ўсходнія арнаменты. Увесь гарнітур зроблены са срэбра, большая частка ўпрыгожана пазалотай і чарненнем. Цікавая версія навукоўцаў: пояс — падарунак крымскага хана Хаджы-Гірэя вялікаму князю Вітаўту як падзяка за дапамогу.



*Пояс Вітаўта зачароўвае і вабіць экскурсантаў.*

Яшчэ адзін унікальны экспанат — "Мінскі скарб". Ён быў знойдзены ў 1988 годзе падчас правядзення будаўнічых работ на перакрыжаванні сталічных вуліц Валадарскай і Гарадскі вал. Скарб датуецца XVII — пачаткам XX стагоддзя і складаецца з 547 прадметаў. Не адвесці вачэй ад падсвечнікаў 1873 года, якія створаны мінскім майстрам Борухам Тапазам, шкатулак, сталовых і пабытавых прадметаў, дэкаратыўных блюд ды іншых экспанатаў.

*Шлях да святыняў*

# Як Рафаэль трапіў у Мазыр?

**Хто стаяў ля вытокаў адзінага ў Беларусі царкоўнага музея? Якія экспанаты захоўваюцца ў фондах? Дзякуючы размове з Васілём Чарвяковым, загадчыкам анцылярыі Тураўскай епархіі, паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара**

Ініцыятарам стварэння музея стаў уладыка Стэфан. Вядома, што Тураўская епархія была заснаваная ў 1005 годзе і з'яўляецца адной са старэйшых ва Усходняй Еўропе. За стагоддзі ў праваслаўных храмах назапасілася шмат гістарычных каштоўнасцей. На жаль, XX стагоддзе ўнесла ў гісторыка-культурную спадчыну Беларусі страшэнныя карэктывы. Калі ў 1913 годзе на сучаснай тэрыторыі епархіі знаходзілася 140 храмаў, дык у 1987 годзе — толькі сем. Прычым толькі адзін з іх — Свята-Нікольскі ў Петрыкаве — дзейнічаў увесь час без перапынку. Шэраг храмаў спынілі сваё існаванне, але царкоўныя рэчы з іх ацалелі.

— З цягам часу рэчаў станавілася ўсё больш, — распавёў Васіль Чарвякоў. — Уладыка Стэфан прапанаваў стварыць музей, дзе можна было б захоўваць іх і дэманстраваць наведвальнікам. Збор і пошукі рэчаў з цэнтральнага Палесся (рэгіёна, які займае наша епархія) доўжыліся на працягу трох гадоў. Нарэшце, у лістападзе 2008-га музей адкрыўся пры галоўным храме Тураўскай епархіі — саборы святога Міхаіла Архангела, які датуецца XVII — XVIII стагоддзямі.

Фонды музея налічваюць каля тысячы адзінак захоўвання. Але сёння наведвальнікі могуць убачыць толькі частку з іх. З аднаго боку, шэраг рэчаў рэстаўрыруецца. З другога, памяшканне музея дастаткова невялікае. Зрэшты, кіраўніцтва епархіі спадзяецца неўзабаве павялічыць плошчу. Пакуль пытанне вырашаецца дзякуючы выстаўкам, якія перыядычна ладзяцца ў іншых установах горада (напрыклад, у краязнаўчым музеі). Таксама экспазіцыя ў розныя часы ладзілася ў раённых цэнтрах епархіі.

Якія экспанаты музея прэтэндуюць на статус унікальных? Магу прапанаваць чытачу некалькі варыянтаў. Па-першае, знакамітая Астрожская Біблія — першае завершанае выданне Бібліі на царкоўнаславянскай мове, апублікаванае ў 1581 годзе Іванам Фёдаравым пры падтрымцы князя Канстанціна Васіля Астрожскага. Да 1821 года ўсе Бібліі, якія выдаваліся кірыліцай для славян, уяўлялі сабой перадрукоўкі Астрожскай. З накладу ў 1000 — 1500 асобнікаў (дакладная лічба невядомая) да нашага часу дайшлі ад 260 да 350 з іх (захоўваюцца ў больш як дзевяці краінах).

Па-другое, іконы народнага пісьма, якія стваралі таленавітыя сяляне і гараджане. Адным з цікавых экспанатаў з'яўляецца копія твора Рафаэля Санці, выкананая ў Лельчыцкім раёне (была знойдзена ў адным з храмаў). Па-трэцяе, еўхарыстычны набор (выкарыстоўваецца ў хрысціянскіх таінствах), што меўся ў партызанскіх атрадах у часы Вялікай Айчыннай вайны.



*Ікона — копія твора Рафаэля Санці.*

Музей Тураўскай епархіі карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод наведвальнікаў. Дастаткова сказаць, што ў мінулым годзе толькі ў складзе арганізаваных груп яго наведалі 8,5 тысячы чалавек. Магчыма, у чытачоў "ЛіМа" ўзнікне жаданне далучыцца да іх?

## Да ведама

У Гомельскім палацава-паркавым ансамблі працуе выстаўка "Духоўная спадчына Зямлі рускага Златавуста — свяціцеля Кірылы Тураўскага", прысвечаная 20-годдзю адраджэння Тураўскай епархіі. Арганізавана яна дзякуючы садзейнічанню Праасвяшчэннейшага Стэфана і з яго благаславення. На выстаўцы прадстаўлены ўнікальныя па сваёй культурнай, мастацкай і гістарычнай каштоўнасці абразы, плашчаніцы, дараносіцы, крыжы, датаваныя XVII — пачаткам XX стагоддзя, кнігі з фонду царкоўна-археалагічнага кабінета Тураўскага епархіяльнага ўпраўлення і царкваў епархіі. Большая частка святынь рэстаўравана і, нягледзячы на свой узрост, знаходзіцца ў ідэальным стане.

У XI — XII стагоддзях Тураў становіцца магутным цэнтрам хрысціянскай культуры. Тут будуюцца храмы і манастыры, складваецца традыцыя хрысціянскага асветніцтва, квітнее адзін з цэнтраў рукапіснай кнігі. Тут жыў і тварыў епіскап Кірыла Тураўскі — асветнік, філосаф, пісьменнік. Ён, а таксама епіскапы Кірыл II і Лаўрэнцій прылічаны да ліку святых.

За шматвяковую гісторыю епархія некалькі разоў спыняла сваё існаванне і зноў адраджалася. У 1990 годзе была ўтворана Гомельска-Мазырская епархія на чале з епіскапам Арыстархам, а ў 1992-м паводле распараджэння Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы з яе складу была выдзелена Тураўская. 24 ліпеня таго ж года архімандрыт Пётр (Карпусюк) быў пасвечаны ў епіскапа Тураўскага і Мазырскага. Тэрыторыя епархіі — гэта дзесяць раёнаў Гомельскай вобласці: Мазырскі, Калінкавіцкі, Петрыкаўскі, Жыткавіцкі, Ельскі, Нараўлянскі, Хойніцкі, Лельчыцкі, Брагінскі і Акцябрскі. У снежні 2005 года епіскапам Тураўскім і Мазырскім стаў архімандрыт Стэфан (Нешчарэт).

**Міра ІЎКОВІЧ**

## Да 1150-годдзя Полацка

# Горад старажытны, горад турыстычны

Раіса МАРЧУК,
фота Кастуся Дробава

**Для развіцця турыстычнага бізнесу Полацк, безумоўна, мае шэраг пераваг перад іншымі гарадамі Беларусі: ён валодае ўнікальнай гісторыка-культурнай спадчынай, найкаштоўнейшымі архітэктурнымі і археалагічнымі помнікамі. Полацк можа і павінен быць найбуйнейшым турыстычным цэнтрам нашай краіны, лічаць як гарадскія ўлады, так і простыя гараджане, нераўнадушныя да таго, як будзе далей развівацца іх старажытны горад. І трэба зазначыць: для ажыццяўлення гэтай мэты ўжо зроблены першыя і канкрэтныя крокі.**

У горадзе вызначаны тры пляцоўкі для развіцця розных відаў турызму: Верхні замак (археалагічны турызм), Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр (гістарычны турызм), парк культуры і адпачынку на левым беразе Заходняй Дзвіны (забаўляльны турызм).

— Каб стварыць канкурэнтаздольныя турыстычныя паслугі і прыцягнуць у наш горад як мага больш гасцей, гарвыканкам сумесна з дзяржаўным унітарным праектным прадпрыемствам "Інстытут Віцебскграмадзянпраект", таварыствам з дадатковай адказнасцю "Мастак сэрвіс" і іншымі зацікаўленымі арганізацыямі распрацаваў Канцэпцыю развіцця турыстычнай інфраструктуры ў раёне Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра і Сафійскага сабора, — распавёў старшыня Полацкага гарвыканкама Аляксандр Пазняк у сталічным Доме дружбы падчас прэзентацыі Полацка ў сувязі з 1150-годдзем з дня яго заснавання. — Бясспрэчна, Сафійскі сабор, які знаходзіцца на тэрыторыі Верхняга Замка, — самы прывабны аб'ект для вандроўнікаў і паломнікаў. Па сутнасці, гэта археалагічны, адміністрацыйна-духоўны і свецкі цэнтр горада, які займае каля дзевяці гектараў. Канцэпцыя стварэння турыстычнай інфраструктуры ў раёне Верхняга замка грунтуецца на інфармацыі, атрыманай падчас гісторыка-архіўных і бібліяграфічных пошукаў, і абапіраецца на гісторыка-архітэктурны план гэтай тэрыторыі. Ансамблевасць забудовы Верхняга замка патрабуе комплекснага падыходу да рэстаўрацыі, уключаючы і археалагічныя даследаванні. Пры гэтым прадугледжана будаўніцтва ці пераабсталяванне аб'ектаў грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання, месцаў пражывання, зоны археалогіі, адпачынку і гандлю ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі.

Невялікая даведка: на пачатку XVIII стагоддзя Сафійскі сабор быў цалкам зруйнаваны, але ў другой палове гэтага ж стагоддзя яго аднавілі ў складзе пышнага архітэктурнага ансамбля, у які акрамя сабора ўваходзіў яшчэ шэраг будынкаў і збудаванняў, а таксама парк. На жаль, карпусы базыльянскага манастыра былі разбураны на пачатку XX стагоддзя. Праект прадугледжвае ўзнаўленне згубленых будынкаў архітэктурнага ансамбля манастыра і размяшчэнне ў іх шматфункцыянальнага Цэнтра сучаснага мастацтва з музеем, мастацкімі галерэямі, канферэнц- і выставачнымі заламі, музычнай і мастацкай школамі, тэатрам-студыяй. Асабліва прыцягвае праекціроўшчыкаў магчымасць перакрыцця ўнутранага двара купалам, каб блізу сцен Сафійскага сабора можна было ладзіць канцэрты і спектаклі пад адкрытым небам. Падчас добраўпарадкавання тэрыторыі прапануецца музеефікаваць археалагічныя руіны храмаў і грамадзянскіх пабудоў XII стагоддзя, каб іх маглі ўбачыць турысты.

— Распрацоўшчыкі канцэпцыі прапануюць правесці рэканструкцыю будынка цяперашняй Цэнтральнай гарадской бальніцы і размясціць у ім Цэнтр гісторыі і археалогіі Полацка, у якім будзе і археалагічны музей, — зазначыў Аляксандр Пазняк. — На базе Цэнтра неабходна стварыць пастаянна дзеючую Полацкую археалагічную экспедыцыю — па прыкладзе Наўгародскай. Чаму б не прыцягнуць да раскопак палачан ды турыстаў-валанцёраў з іншых краін? Паводле задумы праекціроўшчыкаў тут вырастуць адміністрацыйна-гасцінічны і гасцінічна-рэстаранны комплексы, навукова-даследчая база Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, музей гісторыі беларускай дзяржаўнасці. На базе жылой забудовы паўночна-ўсходняй часткі Верхняга замка прапануецца стварыць комплекс міні-гасцініц у выглядзе традыцыйных для сярэдневечнага Полацка драўляных хат, якія можна таксама здаваць у арэнду падчас правядзення розных




*Старшыня Полацкага гарвыканкама Аляксандр Пазняк знаёміць з канцэпцыяй развіцця горада як турыстычнага цэнтра.*

свят і фэстаў. А чаму б не выкарыстаць жылую частку замкавай тэрыторыі, напрыклад, у якасці службовага жылля для прыезджых выкладчыкаў, музыкаў, мастакоў?

Ёсць ідэя аднавіць у рамках добраўпарадкавання тэрыторыі Верхняга замка манастырскі сад, пабудаваць драўляны пешаходны мост, які калісь злучаў Верхні замак і Запалоцкі пасад, пракласці пешыя дарожкі, абсталяваць назіральныя пляцоўкі з элементамі абарончых збудаванняў. Прадугледжана таксама будаўніцтва аб'екта грамадскага харчавання ў выглядзе сярэдневечнага млына, які яшчэ ў XIX стагоддзі стаяў на рэчцы Палата. Таксама плануецца стварыць добраўпарадкаваныя тэматычныя пляцоўкі. Кожная з іх будзе мець сваю назву — "Замкавая", "Рамесніцкая", "Паркавая".

Транспартнае абслугоўванне аб'ектаў будзе ажыццяўляцца з боку вуліцы Замкавай. Для зручнасці турыстаў на тэрыторыі Верхняга замка спраектаваны паркоўкі. А вось стаянкі для турыстычных аўтобусаў мяркуецца размясціць па-за межамі замка: першую — у раёне Ніжне-Пакроўскай вуліцы, другую — у раёне скрыжавання вуліц Стралецкай і Замкавай. Таксама прадугледжаны аўтастаянкі ўздоўж Замкавага праезду.

— Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, як вядома, — месца паломніцтва і аб'ект масавага наведвання турыстаў, таму першачарговая задача — стварыць добрую інфраструктуру, — падкрэсліў старшыня гарвыканкама. — Да варот манастыра вядзе паўкіламетровая пешаходная дарожка, таму спецтранспарт будзе рухацца па нанава пабудаваных дарогах-дублёрах з аўтастаянкамі. Турыстам, якія наведаюць Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, адкрыецца захапляльная панарама: узноўленая капліца Мікалая Цудатворцы і помнік гэтаму святому. Турысты, паводле нашых задумак, змогуць размясціцца ў трохзорkавым гасцінічным комплексе ці VIP-апартаментах.

Не абыдуць госці горада сваёй увагай і фабрыку рамёстваў, дзе прадстаўлены вырабы вручную і рамеснікаў, вытворча-мастацкія майстэрні з гандлёвымі пляцоўкамі. Там можна будзе паназіраць за працай майстроў і набыць розныя цікавыя прадметы.

Дарэчы, у гістарычным будынку, які цяпер належыць лясному каледжу, размесціцца духоўна-асветніцкі цэнтр з канферэнц-залай, музеем праваслаўнага мастацтва, епархіяльным вучылішчам. Па другі бок пешаходнай дарожкі знаходзяцца манастырскія майстэрні, дзе можна паназіраць за працэсам іконапісання, шыцця, вырабу свечак, пасядзець у чайнай "Манастырская".

Акрамя таго, на тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра размесціцца гандлёвыя рады з сувенірнай прадукцыяй, фабрыка рамёстваў, гандлёва-выставачны комплекс, вытворча-мастацкія майстэрні, духоўна-асветніцкі цэнтр, турыстычнае агенцтва, экспазіцыйна-турыстычны комплекс "Беларусь у мініяцюры". Таксама мяркуецца пабудаваць хлебапякарню з крамай, кафетэрыем і адкрытай пляцоўкай кафэ.

На тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра турысты змогуць наведаць званіцу, Спаса-Праабражэнскую царкву XII стагоддзя, Крыжаўзвіжанскі сабор, археалагічныя руіны Храма-ўсыпальніцы полацкіх епіскапаў XII стагоддзя. Для стварэння адасобленага побыту манашак мяркуецца будаўніцтва і рэканструкцыя будынка, у якім будуць абсталяваны келлі і трапезная. Пры выхадзе з манастыра прапануецца прайсці маршрутам "Сцежка Святой Еўфрасінні" і спусціцца да ракі Палата. Прынамсі, супрацоўнікі "Віцебскграмадзянпраекта" ўжо распрацавалі эскізнае рашэнне па добраўпарадкаванні ракі.

Нельга не ўспомніць яшчэ адзін прывабны для вандроўнікаў аб'ект — экспазіцыйна-турыстычны комплекс "Беларусь сучасная". Тут мяркуецца праводзіць семінары, арганізоўваць паломніцкія туры і экскурсійнае абслугоўванне на тэрыторыі манастыра і горада. У выніку ўсе ўнікальныя гістарычныя аб'екты будуць аб'яднаны ў адно цэлае.

Але без эфектыўнай інвестыцыйнай палітыкі немагчыма ажыццявіць гэтую цікавую і незвычайную як для самога Полацка, так і для ўсёй Беларусі, турыстычную канцэпцыю. Таму Полацкі гарвыканкам чакае, што праектам зацікавяцца інвестары і прыйдуць у рэгіён.

## Памяць

# Забываць урокі гісторыі нельга

Ульяна БЯЛОВА

**Мемарыяльны камень у памяць пра яўрэяў, у Вялікую Айчынную вайну дэпартаваных у Мінск з Франкфурта-на-Майне, усталяваны нядаўна на сталічнай вуліцы Сухой.**

Менавіта на гэтым месцы раней былі яўрэйскія магілкі, цяпер тут амаль штогод з'яўляюцца камяні ў памяць пра ўсіх, хто пакутаваў ад фашыстаў. Ёсць памятныя знакі ад нямецкіх гарадоў — Гамбурга, Брэмена, Дзюсельдорфа, Берліна, Кёльна, Бона і сталіцы Аўстрыі Вены.

На цырымоніі адкрыцця Каменя памяці прысутнічалі сведкі тых жудасных падзей. Яны ўспаміналі дэпартацыю, свой жах, калі апынуліся за двайным плотам з калючым дротам, надзею на выратаванне.

— Усяго за гады Вялікай Айчыннай вайны ў Мінскае гета былі дэпартаваны больш як 26 тысяч яўрэяў з дзевяці нямецкіх гарадоў, — распавёў кіраўнік Гістарычнай майстэрні Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Рау Кузьма Козак. — Большасць з іх загінула ў самім гета або ў лагеры смерці "Трасцянец". Вось ужо дзевяць гадоў у доме, які падчас вайны знаходзіўся на тэрыторыі гета, дзейнічае Гістарычная майстэрня. Гэта сумесны беларуска-нямецкі праект, галоўныя задачы якога — дапамога былым вязням, рэалізацыя праграм гістарычнай адукацыі, даследаванне ваеннай гісторыі Беларусі і перыяду нямецка-фашысцкай акупацыі.

Камень памяці створаны па ініцыятыве муніцыпалітэта Франкфурта-на-Майне, яўрэйскай абшчыны гэтага горада, евангелічнай царквы Хессен-НАСА. Намеснік старшыні Саюза беларускіх яўрэйскіх аб'яднанняў і абшчын Барыс Герстэн падчас урачыстай цырымоніі падкрэсліў: "Добра, што мы адкрываем новыя помнікі, але было б у тысячу разоў лепш, калі б гісторыя не давала нам падстаў ствараць жалобныя мемарыялы і адзначаць гадавіны падзей, звязаных з Халакостам, ксенафобіяй, тэрорам".

Каб ушанаваць памяць продкаў, у Мінск прыехалі дэлегаты з Германіі. У гэтыя ж хвіліны ля іншага мемарыяла — на месцы Хатыні — праходзіла цырымонія, прысвечаная гадавіне знішчэння вёскі фашыстамі. Усе ўдзельнікі мерапрыемства прыйшлі да адной высновы: нельга забываць імёны пакутнікаў і тыя ўрокі, што дала нам гісторыя Другой сусветнай вайны. Гэта галоўная задача для пакаленняў нашчадкаў вайны і тое, што павінна аб'яднаць усе народы і нацыянальнасці.

# Уся навука — ва ўзорах

**Усё часцей і часцей мы шукаем душэўнага заспакаення ў еднасці з прыродай, у вывучэнні сваіх гістарычных і этнаграфічных каранёў. І гэта не выпадкова. Менавіта карані даюць устойлівасць, трымаюць на зямлі не толькі маленькую кветачку, вялізны дуб, але і чалавека. Чым мацнейшыя гэтыя карані, тым мацней трымаецца чалавек.**


*Ручнікі, перададзеныя ў музей летась.*

**Наталля ХРАМЯНКОВА,**
**дырэктар Клічаўскага**
**краязнаўчага музея**

Што да беларускіх каранёў, то гэта сапраўдная скарбонка прыгажосці. Вельмі багатая яна на таленты, на цудоўныя вырабы народнага мастацтва. І таго, хто цікавіцца мінулым, чакае шмат захапляльных адкрыццяў. Посцілкі, ручнікі, абрусы. Мы звыкла ацэньваем іх з пазіцыі прыгажосці, адмысловасці арнаменту, каларыту. Але арнамент — гэта яшчэ і своеасаблівая мова. Што ні ўзор — то сімвал: ураджаю, свят, памяці. Усяго, што ў ручніках зашыфравана, не пералічыць. І кожны мае сваё прызначэнне і назву.

Вось што казала пра гэта адна старэнькая бабуля: "Я не ўмею ні чытаць, ні пісаць. Уся мая навука — ва ўзорах маіх посцілак і ручнікоў. Усё, што я бачыла ў жыцці, што рабіла, як мучылася, весялілася, кахала і выходзіла замуж, як мы будавалі дом і гадавалі дзяцей, — усё гэта ўвасобіла ў работах. У іх расказала пра сваё жыццё, нібы ў кнізе апісала".

Яны распавядалі. А ці здольны мы прачытаць? Нам прасцей і лягчэй зразумець тое, што напісана на замежнай мове, а вось вышыванай граматай не валодаем. Яе не ведаюць нават тыя, у чыіх шафах яшчэ захоўваюцца стосы бабуліных посцілак і ручнікоў.

Бяру ў рукі ручнік, які перадала ў Клічаўскі краязнаўчы музей Соф'я Акуліч. Звычайны, ільняны, аздоблены вышыўкай і карункамі. Першае, на што звяртаеш увагу, — выявы галубкоў. Як вядома, у народзе голуб і галубка лічацца сімвалам кахання. Калі голуб ідзе за галубкай — гэта першае знаёмства хлопца з дзяўчынай. Іх каханне толькі пачынаецца. Калі ж дзве птушкі павернутыя адна да другой, ды яшчэ між імі букет — каханне ў самым росквіце. Калі ж птушкі глядзяць у розныя бакі — гэта паэма пра каханне без узаемнасці.

На ручніку Соф'і Антонаўны галубкі павернутыя адно да аднаго, між імі — букет, а ўнізе — адзін з галоўных сімвалаў ураджаю — жыцень (разетка ў выглядзе ромба, ад вуглоў якога адыходзяць па два стылізаваныя жытнія каласы). Гэта мара пра дабрабыт сям'і, заможнасць. Над галубамі — чатырохкутнік з крыжам унутры. Гэта сімвал двара і дома. Чатырохкутнік — гэта замкнёная прастора, як і традыцыйны сялянскі двор. Крыж сведчыць пра тое, што хата — гэта святое. Тут нараджаліся і паміралі. Хата асвечана Богам. Расквечаныя вуглы квадрата — хлеб надзённы. Хай кожны заходзіць у хату, тут накормяць і абагрэюць. І апошні фрагмент арнаменту — вазон з кветкамі, — сімвал шчаслівай жаночай долі. Іншымі словамі, жанчына, якая вышывала гэты ручнік, хацела сказаць, што для шчасця ёй патрэбна не так ужо і шмат: дабрабыт, каханне, свой дом.

І гэтак на кожнай рэчы: свой арнамент — свой аповед, свае мары і надзеі… Але мы іх ужо не разумеем, бо вырасла не адно пакаленне, якое не валодае мовай продкаў. Для таго, каб нешта ведаць, трэба вучыцца з самага дзяцінства. І лепш за ўсё этнаграфічны матэрыял падаць у выглядзе казак, якія так любяць, ахвотна слухаюць і добра засвойваюць і запамінаюць дзеці.


*Беларускія паясы.*

Вось, напрыклад, што такое ручнік-абыдзеннік? Гэта ручнік або кавалак палатна, які разам выткалі жанчыны адной вёскі за дзень (ад усходу і да захаду сонца) або ноч. Паводле вераванняў беларусаў, навізна, а значыць, асаблівая чысціня, надавалі абыдзенніку магічную сілу супраць засухі, граду, эпідэміі, падзяжу свойскай жывёлы і іншых няшчасцяў. Абыдзеннік абносілі вакол вёскі, праз разасланы ручнік праганялі жывёлу, пад ім праходзілі самі людзі. Потым яго спальвалі ці вешалі на крыж.

Але тое ж самае можна расказаць і іншымі словамі. Напрыклад, у казцы пра чарадзейны ручнік распавядаецца, што даўным-даўно праходзіў праз наш лес шлях. Ды пасялілася ля дарогі ўсякая нечысць. Сабраліся на тракце Баба Яга, Кашчэй Бессмяротны, Змей Гарыныч і пачалі тварыць цёмныя справы: то нагавор навядуць, то па лесе закружаць, з дарогі саб'юць, то град наклічуць ці засуху і пагубяць увесь ураджай. А бывала, хваробы розныя на людзей напусцяць ды палову народу перамораць.

Зусім ужо адчаяўся тутэйшы люд, не стала з гэтай нечысцю ніякага зладу. Так і гаравалі, пакуль не завітаў у гэтыя мясціны стары багамолец. Прыйшоў ён у вёску бліжэй да вечара і папрасіўся на начлег у крайнюю хату. Цесна было ў ёй, але пусцілі Старца, падзяліліся з ім небагатай вячэрай. Падзякаваў Старац за хлеб-соль і запытаў: "А што гэта ў вас у сяле так ціха ды сумна? Не чуваць смеху і песень, дзеўкі карагоды не водзяць?"

І паведалі яму людзі пра сваё гора, пра тое, што пасялілася ля дарогі нечысць. Паслухаў Старац, прызадумаўся і кажа: "Хай збяруцца жанчыны і саткуць за адну ноч доўгі ручнік. Толькі абавязкова трэба паспець закончыць работу да ўсходу сонца. Потым хай выйдуць усе і абнясуць гэты ручнік вакол вёскі, а пасля павесяць яго на вялікі драўляны крыж, што стаіць ля дарогі за сялом. І прападзе ўся погань, не будзе больш турбаваць".

Зрабілі людзі ўсё, як вучыў Старац, і ўцякла нечысць з дарогі ў дрымучы лес, ды так бегла, што толькі пяткі бліскалі. З тых часоў абыходзіць яна тое сяло бокам, і ўсе беды зніклі разам з ёй. Зажылі людзі весела ды радасна. І Старца добрым словам памінаюць. А на крыжы ля дарогі і сёння вісіць ручнік-абыдзеннік, злых духаў адпужвае.

На жаль, большасць традыцыйных самаробных прылад працы, прадметаў побыту, рэчаў хатняга ўжытку адышлі ў нябыт, саступілі месца прамысловым вырабам. Нельга дапусціць, каб зніклі і ўзоры народнай мастацкай творчасці. Таму супрацоўнікі музея арганізуюць пошукавыя экспедыцыі па выяўленні і зборы ўзораў народнага мастацтва, вывучаюць, ставяць іх на ўлік, а потым ладзяць выстаўкі, іншыя мерапрыемствы.

Возьмем традыцыйныя беларускія паясы, якія выраблялі паўсюдна да 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Імі падпярэзвалі кашулі і верхняе адзенне. На поясе ці за поясам насілі сякеру, нож, грабеньчык, ключы. Поясу прыпісвалі розныя магічныя функцыі, лічылі, што ён надае чалавеку сіл, аберагае ад хвароб і няшчасных выпадкаў. Важнае месца адводзілася яму ў розных абрадах, асабліва вясельных (на розных этапах вяселля маладой даводзілася дарыць да сотні паясоў).

Супрацоўнікі Клічаўскага музея пачалі працаваць над адраджэннем тэхналогіі пляцення паясоў на дошчачках. Праўда, займаюцца гэтым у асноўным музейныя наглядчыкі. Вучыліся выбраляць абразчыкі, аналагічныя тым, што захоўваюцца ў фондах. Потым набылі спецыяльную літаратуру, шукалі ў інтэрнэце схемы перапляцення нітак, каб стварыць новыя ўзоры і арнаменты. Цяпер пайшлі далей: у тэхніцы пляцення паясоў на дошчачках пачалі выбраляць закладкі для кніг. З цягам часу з'явіліся закладкі, на якіх выткана назва горада — "Клічаў".

Сёння мы плануем больш шырока прапагандаваць абразчыкі традыцыйнай беларускай мастацкай культуры: выбраляць паясы і закладкі для кніг і прапаноўваць іх у якасці сувеніраў турыстам.

## Афарызм

*О, не пакідай мяне, смех,*
*Ніколі, ні ў раі, ні ў пекле.*

**Максім ТАНК**

## З глыбінкі

# «Росквіт» талентаў

Тыя з бабруйчан, хто прыйшоў у гарадскі Палац мастацтваў на справаздачны канцэрт цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі "Росквіт", не пашкадавалі. Дзве гадзіны праляцелі як імгненне. Калектывы юных выканаўцаў змянялі адзін аднаго, не даючы гледачам магчымасці засумаваць.

Узорны ансамбль танца "Васілёк", узорная эстрадная студыя "Сола", заслужаны калектыў Беларусі ансамбль танца "Зязюлечка", ансамбль танца "Карусель", калектыў "Зачаравашкі"… Хлопчыкі і дзяўчынкі, юнакі і дзяўчаты не проста танчылі, яны ўкладалі ў танец усю душу, і таму ў глядзельнай зале не было раўнадушных.

Але не толькі танцы ў гэты вечар былі прадстаўлены публіцы. Узорная студыя аўтарскай моды "Сілуэт" прапанавала гледачам сваё бачанне сучаснай моды, эстрадная студыя "Жамчужынка" парадавала джазавымі кампазіцыямі, а зусім юная спявачка Валерыя Заяц прымусіла залу проста ўзарвацца авацыямі.

Пазітыўныя эмоцыі і цудоўны настрой — вось тое, што шчодра падарылі маладыя артысты сваім прыхільнікам.

**Міхаіл КУЛЯШОЎ,**
**г. Бабруйск**

# У размоўным жанры

Рэгіянальны конкурс мастацкага слова "Таленты Палесся" прайшоў у Пінскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Удзел у ім прынялі адзінаццацікласнікі з Пінска і Пінскага раёна, а таксама іх аднагодкі з Іванава, Століна і Лунінца. Конкурс "Таленты Палесся" стаў ужо традыцыйным. На гэты раз ён быў прымеркаваны да Міжнароднага дня тэатра і Дня адчыненых дзвярэй у каледжы мастацтваў.

Кожны ўдзельнік мусіў прадставіць на суд журы два творчых нумары, у якіх праяўляў сябе як артыст размоўнага жанру. Фельетон ці то пародыя, мініяцюра ці то чытанне вершаў, класіка і сучасная літаратура, айчынныя і замежныя аўтары — прыхільнасці ўдзельнікаў конкурсу былі надзвычай разнастайнымі. Не забаранялася прадстаўляць і ўласныя літаратурныя творы, што некаторыя старшакласнікі, карыстаючыся магчымасцю, і зрабілі.

Патрабавальнае журы размеркавала месцы наступным чынам. Дыплом I ступені ў Лунінец павезла Надзея Согава. Дыплом II ступені заваяваў пінчанін Андрэй Гарыст. Вучаніца Ахоўскай школы Пінскага раёна Наталля Абрамчук узнагароджана дыпломам III ступені.

Многія пінскія школьнікі атрымалі граматы. Валянцін Стасюкевіч — за лепшы патрыятычны твор, Аляксандр Марціновіч — за гумарыстычны, за лепшае выкананне аўтарскага сачынення — Галіна Краўчунас. Граматы за лепшую акцёрскую работу падзялілі Нікіта Пашукевіч і Аляксей Ганчар. Яўгенія Краўчук узнагароджана за арыгінальнасць у выкананні мастацкага твора, а Марыя Малейчук — за лепшае чытанне на беларускай мове.

**Вікторыя ІГНАТЧЫК,**
**г. Пінск**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2808
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 26.04.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1821
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686